№ 9 (942) 2 сакавіка 2016 www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

## Не ўсё ў жыцці апошні раз!

Дык падпісвайся на «Нашу Ніву». **Старонка 2.**

## Марыяна Шчоткіна абараніла кандыдацкую дысертацыю з сусветным рэкордам



Старонка 6

# Пярэваратняў з КДБ судзяць за ўдзел у найбуйнейшым наркакартэлі Беларусі

Кіраўнік групоўкі ездзіў на «Мерседэсе» прадстаўніцкага класа з нумарным знакам 0101.



СЕРГЕЙ ГАПОН, KP.BY

У Мінску за распаўсюд наркотыкаў судзяць 17 чалавек. Галоўны фігурант па справе — 31-гадовы Канстанцін Вілюга, па мянушцы Кот, дырэктар «ВКМ-груп».

Вілюга скончыў журфак БДУ. Некаторы час ён супрацоўнічаў з газетай «СБ. Беларусь сегодня». На сайце «СБ» і цяпер можна знайсці некалькі яго публікацый. Аднак гэта, як і многае іншае ў жыцці, здаецца, яму было трэба толькі для наладжвання «карысных сувязяў».

Вілюгу затрымалі яшчэ ў лістападзе 2014 года. Ён быў за стырном «Мерседэса» прадстаўніцкага класа з нумарным знакам 0101. Абвінавачаны любіў дарагія машыны і хваліўся, што на дарозе яго машыне салютавалі супрацоўнікі ДАІ.

Паводле версіі следства, у 2011 годзе Вілюга запусціў сайт *LegalMinsk*, які фігуруе ў многіх крымінальных справах, звязаных з незаконным распаўсюдам наркотыкаў. Па ацэнцы праваахоўнікаў, пры удалых аптовых продажах прыбытак падсуднага дасягаў $7 тысяч у месяц. І гэта — без уліку рознічнага продажу.

Пры вобшуку ў Вілюгі знайшлі пасведчанне сябра асацыяцыі па барацьбе з наркотыкамі. Злачынец паказваў дакумент пры сустрэчы з міліцыянтамі, якім здаваў сваіх канкурэнтаў. Так яму ўдалося падмяць пад сябе ўвесь рынак псіхатропаў у Беларусі. Пазней ён арганізаваў філіялы і ў Расіі. Сваёй віны Канстанцін Вілюга не прызнае.

Усяго па справе праходзіць 17 абвінавачаных, сярод якіх — два старшыя ўпаўнаважаныя супрацоўнікі КДБ: Ігар Карыцкі ў Брэсцкай вобласці і Дзмітрый Верацэнскі ў цэнтральным апараце камітэта. Яны дагэтуль не лічацца звольненымі.

Яшчэ адзін абвінавачаны — 35-гадовы Канстанцін Дзенісевіч. Ён быў супрацоўнікам галоўнага ўпраўлення па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй МУС. З 2012 года ён супрацоўнічаў з Вілюгам, а ў 2014 звольніўся з міліцыі і канчаткова «ўладкаваўся» на працу ў спайс-картэль.

**Працяг на старонцы 7.**

## Міліцыя адмовілася ад затрыманняў на акцыях пратэсту

Міністр унутраных спраў Ігар Шуневіч правёў прэс-канферэнцыю, падчас якой зрабіў важную заяву: за ўдзел у акцыях пратэсту, хай і несанкцыянаваных, нікога не затрымліваюць.

«Наша стаўленне да гэтых мерапрыемстваў трохі трансфармавалася, і рыторыка змянілася як знешняя, так унутрыпалітычная, — патлумачыў Шуневіч. — Я думаю, што мы сёння знайшлі алгарытм, які задавальняе ўсіх, дастаткова цывілізаваны. Падкрэсліваю — прымальны з пункту гледжання дзяржаўнай улады і цывілізаваны з пункту гледжання міжнародных патрабаванняў алгарытм рэагавання на гэтыя дзеянні».

Нягледзячы на такую змену, канстытуцыйнае права грамадзян на свабоду сходу ўсё яшчэ застаецца вельмі ўмоўным. Шуневіч запэўніў, што арганізатары і актыўныя ўдзельнікі такіх акцый не застануцца без пакарання: «Мы ніводнае з гэтых мерапрыемстваў не пакідаем без увагі, рэагуем, складаем адміністратыўныя пратаколы і накіроўваем іх у суд».

Суды па такіх справах караюць людзей штрафамі, часам вялізнымі.

**«Інфармацыйная вайна» з МУС?**

Пачалася прэс-канферэнцыя рэверансам з боку дзяржаўных СМІ. Журналіст «Советской Белоруссии» заявіў, што апошнім часам пачасціліся правакацыі на адрас міліцыі. Маўляў, як супрацьстаяць гэтаму?



«Большасць СМІ крытыкуе канструктыўна, але частка — гэта не што іншае, як інфармацыйная атака на дзейнасць такой структуры, як МУС, — адказаў міністр. — Я ацэньваю гэта так. Калі казаць яшчэ шчырэй, гэта інфармацыйная вайна, якая вядзецца з МУС. З усімі адпаведнымі наступствамі».

**Працяг на старонцы 3.**

## Памятаеце Курэпіна?

Студэнт, які жыў на 400 тысяч у месяц, цяпер зарабляе 80 даляраў за дзень. **Старонка 12.**

## Жонка Дзяніса Кур'яна

Тэлевядучы на адпачынку ў Тайландзе зрабіў яе прыгожыя фота. **Старонка 9.**

## Нязломны Валерый Урублеўскі

Паплечнік Каліноўскага, сябар Маркса… Піша гісторык Васіль Герасімчык. **Старонка 13.**

## Матка

Апавяданне Андрэя Горвата. **Старонка 15.**

# Закідаем шапкамі? Па расходах на армію Беларусь апошняя ў рэгіёне

Захоп Расіяй Крыма і Усходняга Данбаса выклікаў трывогу ва ўсім рэгіёне. Суседзі адрэагавалі на дзеянні Расіі актывізацыяй міжнароднага супрацоўніцтва ў сферы абароны, павелічэннем і пераўзбраеннем армій, а таксама ростам вайсковых бюджэтаў. Як выглядае Беларусь па фінансаванні арміі ў параўнанні з суседзямі? Эксперты ўсё часцей выказваюць занепакоенасць станам беларускай арміі. Яе тэхніка, асабліва авіяцыя і сродкі супрацьпаветранай абароны, састарэлі. А фінансавае і матэрыяльнае забеспячэнне асабовага складу такое, што прэстыж службы застаецца невысокі.

Гэта становіцца асабліва выяўна, калі мы параўноўваем выдаткі ў пераліку на душу насельніцтва. У намінальным выражэнні менш на армію ў 2015 годзе выдаткоўвала толькі Украіна.

А калі пералічыць выдаткі на душу насельніцтва па парытэце пакупной здольнасці, то Беларусь увогуле апускаецца на апошняе месца ў рэгіёне.

Літва ў 2015 годзе павялічыла выдаткі на абарону больш чым на 30%. Непараўнальна з іншымі артыкуламі дзяржаўнага бюджэту выраслі вайсковыя выдаткі ў Эстоніі і Латвіі.

Нарвегія, самы паўночны сусед Расіі, павялічыла вайсковы бюджэт на гэты год на 9,8% нават на фоне падаючых коштаў на нафту, што адчувальна ўдарыла па эканоміцы краіны. Каля $1,51 млрд нарвежцы аддаюць у гэтым годзе толькі на закупку новай зброі.

Таксама Нарвегія плануе павялічыць сілы сваёй арктычнай групоўкі, якая стаіць непасрэдна на мяжы з РФ.

Нейтральная Фінляндыя, якая плануе ўсё больш актыўна супрацоўнічаць з НАТА, таксама не забывае пра ўласныя выдаткі на абарону. Калі ў 2015 годзе абаронны бюджэт Суомі складаў каля 2,7 млрд еўра, то ў 2016 годзе плануецца аддаць на вайсковыя мэты амаль 2,9 млрд.

Па зразумелых прычынах працягвае рэзка падвышаць вайсковыя выдаткі Украіна. Калі ў 2015 го-дзе яна ўжо мела самы высокі за гісторыю незалежнасці абаронны бюджэт — каля $2,2 млрд, то ў 2016 ён можа перавысіць адзнаку $3 млрд.

Падзенне эканомікі Расіі прывяло да таго, што хоць у расійскіх рублях бюджэт арміі вырас на 0,8% да 3,145 трлн, аднак у далярах рэзка скараціўся — прыкладна да $26 млрд. Да таго ж цяпер урад разглядае магчымасць скараціць вайсковыя выдаткі на 5%.

Беларускі ж вайсковы бюджэт некалькі гадоў трымаўся на ўзроўні $700—$800 мільёнаў, што прыкладна ў 10 разоў менш, чым у суседняй Польшчы. У 2015 годзе сітуацыя стала яшчэ горшай. На абарону было накіравана каля 8,8 трыльёна рублёў. Але ў выніку дэвальвацыі нацыянальнай валюты выдаткі на армію ў пераліку па сярэднегадавым курсе скараціліся да $554 млн.

Беларусі трэба моцная армія. А каб армія была моцнай, выдаткі на яе трэба павялічваць. Забеспячэнне дастатковага фінансавання арміі павінна стаць адной з мэтаў рэформаў у беларускай эканоміцы.

**Аляксандр Гелагаеў, Сяргей Гезгала, інфаграфіка АГо**




**Насуперак папулісцкім стэрэатыпам, выдаткі на армію ў Беларусі застаюцца крытычна нізкія. Эстонія са сваімі 1,3 млн насельніцтва выдаткоўвае на сваіх вайскоўцаў амаль столькі ж, колькі 9-мільённая Беларусь.**

## Сцісла

### Перапіс насельніцтва аб'яднаюць з перапісам скаціны

Перапіс насельніцтва, запланаваны ў Беларусі на 2020 год, будзе сумешчаны з сельскагаспадарчым перапісам. У дадатковым лісце апытання будзе сабраная інфармацыя аб наяўнасці ў насельніцтва зямельных участкаў, скаціны, птушкі, пладовых дрэў.

### Абраны новы прэзідэнт ФІФА

На выбарах перамог генеральны сакратар УЕФА Джані Інфанціна. 45-гадовы швейцарац апярэдзіў шэйха Салмана з Бахрэйна. Інфанціна хоча павялічыць колькасць удзельнікаў чэмпіянату свету па футболе да 40 зборных.

### Януковіч хацеў бы вярнуцца ва Украіну

Адвакат былога прэзідэнта Украіны Віктара Януковіча Віталь Сярдзюк заявіў, што яго кліент «будзе рабіць прававыя крокі».

### У Мінску ўшанавалі памяць Нямцова

Каля 15 чалавек прынеслі да расійскага пасольства ў Мінску плакаты «Расія будзе свабоднай». Акцыя была прысвечана расійскаму палітыку Барысу Нямцову, забітаму год таму ў цэнтры Масквы. У той жа дзень у Маскве адбылося шэсце памяці Нямцова. На яго сабралася каля 25 тысяч чалавек.

**БЮ**

## Апытанне

**На Вашым прадпрыемстве заробкі выплачваюць у час ці затрымліваюць?**

| | | |
|---|---|---|
| У час | 556 | 55% |
| Затрымліваюць | 292 | 29% |
| У мяне ў час, але ў маіх сваякоў, сяброў затрымкі | 167 | 16% |

Прагаласавала 1015 чалавек

**Затрымкі выплаты заробкаў на Віцебшчыне — старонка 5.**

# Фэст «Каго любіш? Люблю Беларусь!» не дазволілі, бо «адбылася ўцечка этыленгліколю»

6 лютага «Арт-сядзіба» падпісала з Палацам спорту дамову на арэнду пляцоўкі для правядзення 25 сакавіка музычнага фестывалю «Каго любіш? Люблю Беларусь!».

Праз тыдзень, у дзень адказу на заяўку згодна з заканадаўствам, «Арт-сядзіба» спачатку атрымала ліст ад кіраўніцтва КС РУП «Палац спорту» з інфармацыяй, што «21 лютага падчас правядзення Адкрытага чэмпіянату Рэспублікі Беларусь па самба адбылася ўцечка этыленгліколю на лядовай арэне Палаца спорту, якая прывяла да парушэння працы сістэмы холадазабеспячэння. Рамонтна-аднаўленчыя работы будуць праводзіцца з 21 да 30 сакавіка 2016 г. Па гэтай прычыне правядзенне 25 сакавіка 2016 г. канцэртнага мерапрыемства не ўяўляецца магчымым».

Праз некалькі гадзін прыйшла і адмова ад Мінгарвыканкама, які не выдаў дазвол на канцэрт «Каго любіш? Люблю Беларусь!» з-за таго, што 25 сакавіка ў Палацы спорту будуць адбывацца рамонтна-аднаўленчыя работы.

«У заяўцы ў Мінгарвыканкам мы не хавалі, што фестываль будзе прысвечаны 98-й гадавіне абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі і пройдзе ў рамках рэспубліканскага Года культуры, якім у Рэспубліцы Беларусь аб'яўлены 2016 год, — кажа дырэктар «Арт-сядзібы» Павел Белавус. — У праграме на пачатку мы пазначылі выступы прадстаўнікоў Міністэрства культуры і Акадэміі навук з урачыстымі прамовамі. А мэтамі ўсяго мерапрыемства пазначылі патрыятычнае выхаванне моладзі, папулярызацыю сучаснай беларускай культуры, беларускай мовы і важных гістарычных падзей беларускай дзяржаўнасці. Да таго ж мы накіравалі інфармацыйныя лісты старшыні Мінгарвыканкама, кіраўніку Цэнтральнага раёна Мінска, кіраўніцтву Міністэрства культуры, міліцыі, КДБ, у Адміністрацыю прэзідэнта, што мерапрыемства мае культурна-патрыятычны характар і мы гатовыя яго правесці строга ў рамках заканадаўства. Вось зараз чакаем з усіх гэтых устаноў адказы. Мы не губляем надзею, што там зразумеюць важнасць гэтага мерапрыемства», — спадзяецца Белавус.

«Я не разумею, чаму чыноўнікі не могуць уцяміць, што забарона такіх фестываляў, як «Каго любіш? Люблю Беларусь!» ці канцэртаў беларускіх гуртоў — гэта не толькі іміджавыя, але і фінансавыя страты для краіны, — кажа Белавус. — На канцэрты за межамі Беларусі беларускіх гуртоў і выканаўцаў — Крамбамбулі, Brutto, Змітра Вайцюшкевіча і Лявона Вольскага — збіраецца да 5 тысяч і больш беларусаў. На адну такую паездку (квіткі, дарога, харчаванне, гатэль, падарункі, закупы) адзін чалавек выдаткоўвае каля 200 даляраў. Назавіце мне яшчэ хоць адзін сусветны прыклад: каб 5 тысяч чалавек з адной краіны ехалі на выходныя ў суседнюю краіну, каб паслухаць песні гуртоў са сваёй краіны на роднай мове? Далей лічыце самі і рабіце высновы, хто займаецца ў Беларусі антыдзяржаўнай дзейнасцю. Хто прымае рашэнні, з-за якіх айчынныя пляцоўкі і дзяржбюджэт недаатрымліваюць прыбытак?» — кажа Белавус.

**Сяргей Гезгала**



## Самае чытанае на nn.by за 24 лютага — 1 сакавіка

1. Тэлевядучы Дзяніс Кур'ян на адпачынку ў Тайландзе зрабіў прыгожыя фота жонкі
2. Прадпрымальнікі правялі ў цэнтры Мінска новую акцыю пратэсту
3. Марыяна Шчоткіна абараніла кандыдацкую дысертацыю з сусветным рэкордам
4. Домрачава, Глеб, Ганчарэнка: як спартыўная эліта абжывае бераг Мінскага мора
5. На расійскім тэлеканале высмеялі антыўкраінскую прапаганду
6. Ад вершаў пра «Пагоню» да «неадрыўнай часткі рускага свету» — эвалюцыя поглядаў юнака з Брэста Кірылы Азімкі
7. Максу Каржу на 5 гадоў забаранілі ўезд ва Украіну за канцэрты ў акупаваным Крыме
8. Давыдзька прыйшоў у «Клуб рэдактараў» з «Пагоняй» на сэрцы
9. У апытанцы ў ВК «Советской Белоруссии» большасць выказалася за ўжыванне назвы «Масковія» замест «Расія»
10. Сяргей Міхалок: Кіраўніцтва Мінгарвыканкама запрасіла мяне вярнуцца на Радзіму

# Міліцыя адмовілася ад затрыманняў падчас вулічных акцый пратэсту

Працяг са старонкі 1.

«Што тычыцца правакацый, то супрацоўнік МУС не мае права паддавацца сваім пачуццям. Ён павінен рэагаваць прафесійна», — патлумачыў Шуневіч.

### Пра заробкі ў міліцыі

Ці падаюць заробкі ў міліцыянтаў і ці будуць павышаць ім пенсійны ўзрост? Шуневіч запэўніў, што заробак у супрацоўнікаў МУС не паменшаў і такое не плануецца. «Калі пералічыць на валюту, то стала менш, мы ў роўнай сітуацыі з іншымі бюджэтнікамі. Але не думаю, што матэрыяльны дастатак міліцыянты ставяць перадусім, калі ацэньваюць сваю работу», — мяркуе ён.

Шуневіч запэўніў, што яго ведамства гатовае да павышэння пенсійнага ўзросту. Ён лічыць, што гэты працэс непазбежны.

### Дзяржзакупкі — крымінагенная сфера

Аб праблемных момантах у галіне дзяржзакупак Ігар Шуневіч выказаўся так: «Гэтая сфера крымінагенная ва ўсім свеце. Мы не выключэнне, бо каля 90% дзяржзакупак у Беларусі вядзецца па неканкурэнтнай працэдуры, закупаюць з адной крыніцы».

### Чартаўшчына з дапамогай інтэрнэту

За апошнія пяць гадоў колькасць «алкагольных злачынстваў» у Беларусі скарацілася амаль на 40% — з 27 тысяч да 17,5 тысяч, пахваліўся Шуневіч. І МУС будзе імкнуцца абмяжоўваць даступнасць алкаголю ў краіне.

«Бо алкаголікі становяцца маладзейшыя, цяжар алкагалізму ўзрастае, выдаткі дзяржавы на пераадоленне наступстваў алкагалізму павялічваюцца. Але ў нас ёсць некалькі козыраў», — заявіў міністр.

Акрамя таго, на яго думку, «адмена шэрагу санкцыйных мер у дачыненні да алкаголю» можа прывесці да таго, што колькасць «алкагольных злачынстваў» зноў будзе павялічвацца.

Шуневіч заявіў, што катэгарычна супраць інтэрнэт-дастаўкі спіртных напояў, якую цяпер лабіруе ў краіне «Еўраопт».

### «Байкеры — нармальныя пацаны»

Была ўзнятая і праблема байкераў, якія парушаюць спакой.

«Байкеры — нармальныя пацаны, яны прыязджаюць на нашыя святы, катаюць дзяцей. А тыя, хто газуе па начах... Гэта, мякка кажучы, матацыклісты», — прыдумаў Шуневіч сваю незразумелую класіфікацыю.

Ён адзначыў, што міліцыя мае законныя спосабы барацьбы з такімі «гоншчыкамі». Напрыклад, супрацоўнік МУС можа «засумнявацца» ў серыйным нумары матацыкла і паставіць яго «на прыкол» для экспертызы.

«Я такога супрацоўніка не пакараю, калі пабачу, што карысці ад яго рашэння будзе больш, чым шкоды», — падкрэсліў міністр.

Напрыканцы Шуневіч яшчэ раз нагадаў, што МУС — не закрытае міністэрства. «Мы не ханжы і нейкія там людзі ў шэрых пінжаках», — сказаў Шуневіч. І не схлусіў: пінжак на ім быў чорны.

**Улад Швядовіч**

**«Беларускую міліцыю дыскрэдытуюць лялькаводы з метадычкамі каляровых рэвалюцый»**

«Советская Белоруссія» зрабіла спецвыпуск, прысвечаны абароне іміджу міліцыі.

«Нездаровая валтузня вакол міліцыянтаў працягваецца ўжо не адзін месяц. Прымітыўны кампрамат штампуецца спраўна. Правакацыі тыражуюцца. Прадстаўнікі пакалення «вау» і «упс» лёгка вядуцца на вуду. Усё вельмі проста: разлаванымі нігілістамі (іх цяпер модна называць хейтэрамі (англ. hate — «ненавідзець») крытыкуецца практычна любое дзеянне сілавікоў. Дробныя промахі, недапрацоўкі міліцыянтаў раздзімаюцца да маштабу жудасных злачынстваў, поспехі, наадварот, нібыта не заўважаюцца», — сцвярджаецца ў «СБ».

Кампанія ў абарону міліцыі ў афіцыйных СМІ пачалася пасля таго, як у інтэрнэце людзі рэзка негатыўна ўспрынялі паведамленні пра збіццё журналіста Паўла Дабравольскага і яшчэ двух юнакоў проста ў зале суда ў Мінску.

На думку большасці, такія факты дыскрэдытуюць і міліцыю, і краіну. Міліцыянты, у тым ліку і спецназаўцы, павінны спыніць практыку «прафілактычнага збіцця» людзей — такая думка ў інтэрнэце дамінуе.

# У Мінску прайшла трэцяя акцыя ў абарону ІП

На Кастрычніцкую выйшлі **400 чалавек.**

Незадаволеныя 222-м указам прадпрымальнікі 28 лютага трэці раз выйшлі на Кастрычніцкую плошчу ў Мінску. Яны даказваюць, што па новых правілах сертыфікацыі тавараў працаваць немагчыма.

Акцыю прызначылі на выхадны, яе добра прапіярылі ў сацыяльных сетках, але народу на Кастрычніцкай плошчы сабралася мала — усяго чалавек 400.

Першымі прыйшлі палітыкі, потым падцягнуліся анархісты з гучнымі і вялікімі банерамі. З'явілася нават абвешаная георгіеўскімі стужкамі пані з расійскай чарнасоценскай групоўкі НОД («Нацыянальна-вызваленчы рух»). Яна даводзіла, што Беларусь — калонія ЗША.

Пратэст прайшоў па сцэнары дзвюх папярэдніх акцый. Выступоўцы па чарзе перадавалі адзін аднаму мегафон, акцэнтуючы ўвагу кожны на сваім.

Прадпрымальнік Алесь Макаеў казаў, што стала немагчыма працаваць, людзі сядзяць без грошай і перспектыў.

Хрысціянскі дэмакрат Павел Севярынец адзначыў, што сітуацыя ў краіне набліжаецца да крызісу 1990-х, калі цэны раслі, а заробкі падалі.

Экс-кандыдат у прэзідэнты Мікола Статкевіч падагульніў, што ўсё пералічанае адбываецца, бо ў народа адабралі ўладу.

Гандляр з Полацка, які стаяў побач з карэспандэнтам «НН», заўважыў, ківаючы на Статкевіча, што ў апазіцыі ёсць добрыя генералы, але салдат мала.

«Гэтых мітынгаў мала, мы мусім ствараць мясцовыя камітэты па выратаванні прадпрымальніцтва. Беларуская інтэлігенцыя, падтрымайце нас», — з такім заклікам выступіў прадпрымальнік з Барысава Алесь Абрамовіч.

Ад акцыі да акцыі ўдасканальваецца крэатыў пратэстоўцаў. Так, апроч банераў з лозунгамі, людзі зладзілі на плошчы невялікі перформанс: двое прадпрымальнікаў трымалі з розных бакоў вяроўку, на якую іхняя калега навешвала адзенне, якое дзяржава прапануе ім на распаўсюд узамен імпартнага. Кожны прадмет прызначаўся ў падарунак камусьці з чыноўнікаў. Кабякову дасталася блакітная кашуля, міністру фінансаў — порткі, а Лукашэнку — трусы ў дробную клетку.

Іншы прадпрымальнік трымаў у руках туалетную паперу з надрапанымі карычневай фарбай лічбамі 222. «Вось чаго вартыя іхнія ўказы», — сказаў ён.



**Наступны марш — 14 сакавіка**

Наступная акцыя прадпрымальнікаў запланаваная на 14 сакавіка. Адпаведную заяўку ў гарвыканкам падалі Мікола Статкевіч і лідар РГА «Перпектыва» Анатоль Шумчанка.

Прычым лідар Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька, непакоячыся, што Шумчанка ў апошні момант перадумае, падаў заяўку на правядзенне агульнага сацыяльнага маршу за годнае жыццё ў гэты ж дзень і па тым жа маршруце.

А яшчэ адзін чалавек трымаў у руках касу, якая, паводле яго, мае два пасылы: кожная каса находзіць на камень і кожная каса можа стаць касінерскай.

Ну а калі ўсе перформансы былі зладжаныя, а словы — сказаныя, людзі рушылі на плошчу Незалежнасці.

Ідучы ўздоўж праспекта, удзельнікі акцыі крычалі «Далучайся, далучайся». Але мінакі ціснуліся да будынкаў і даставалі свае тэлефоны, каб сфатаграфаваць калону.

Сілавікі шэсцю не заміналі, толькі фільмавалі ўдзельнікаў і стварылі радыёперашкоды анлайн-трансляцыям.

Ніводнага пратакола падчас самой акцыі складзена не было. Сілавікі ўлічылі досвед мінулага разу, калі міліцыянтаў проста выпхнулі пры спробе падысці да прамоўцаў.

Таму паперы на актыўных удзельнікаў несанкцыянаваных мітынгаў складаюць завочна і потым дасылаюць поштай. Некалькі чалавек з нядзельнага пратэсту ўжо атрымалі пратаколы.

Наступны раз людзі вырашылі сабрацца 14 сакавіка на новы прадпрымальніцкі мітынг, перад гэтым, 7 сакавіка, мусяць адбыцца акцыі ў раёнах са слоганам «Час мяняць лысую гуму». Але наколькі акцыі будуць масавыя, сказаць цяжка.

Улады на саступкі гандлярам вопраткай не ідуць.

**Арцём Гарбацэвіч**

# Расія дае Лукашэнку $2 мільярды

Візіт прэзідэнта Расіі Уладзіміра Пуціна ў Мінск скончыўся выдзяленнем Беларусі чарговага крэдыту. Грошы будуць пералічаныя па лініі Еўразійскага фонду стабілізацыі і развіцця.

Праграма разлічана на два гады. Сёлета мае прыйсці першы транш — 1,1 мільярда. У 2017 годзе Беларусь мае атрымаць яшчэ тры траншы агульным памерам $900 мільёнаў.

Адначасова Беларусь вядзе перамовы з МВФ аб атрыманні крэдыту на $3 мільярды ў рамках пашыранага фінансавання пад 2,28% на 10 гадоў.

**ЯМ**




**Фотафакт**

### Халодны Палац Незалежнасці

Спікер Савета Федэрацыі Расіі Валянціна Мацвіенка падчас пасяджэння ў Палацы Незалежнасці была ў футры. «Мне холадна, мне проста холадна», — прызналася яна.

«Пустуе, вось там і халодна», — так выказаўся пра Палац Незалежнасці карэспандэнт маскоўскай газеты «Коммерсант».

# Віталь Гуркоў: Сітуацыя з канцэртам Brutto вельмі неадназначная


Вадзім Гуркоў.

Саліст Brutto Сяргей Міхалок змясціў у сеціве відэазварот, у якім распавядае пра размову з чыноўнікамі наконт канцэрта ў Мінску.

Нагадаем, што спявак прапанаваў зладзіць канцэрт у Мінску ў любы час і дзень, а грошы, якія будуць атрыманыя з канцэрта, гурт аддасць на дабрачыннасць. Такім чынам ён прапануе дзяржаве абвергнуць чуткі пра чорныя спісы ў Беларусі.

У відэа спявак сцвярджае, што Мінгарвыканкам гатовы і згодны дазволіць выступ *Brutto* ў Мінску, толькі чакае згоды іншых афіцыйных структур.

Мы звярнуліся па каментар да Віталя Гуркова — аднаго з вакалістаў *Brutto* і шматразовага чэмпіёна свету па муай-тай.

«Сітуацыя вельмі неадназначная, насамрэч. Так, былі перамовы, былі сустрэчы. Праводзілася праверка па розных інстанцыях. Але складаецца ўражанне, што яны шукаюць, на каго перакласці адказнасць за наш канцэрт у Мінску. Я вельмі спадзяюся і веру, што гэта абсалютна магчыма. Але працэс зацягваецца».

У выпадку, калі канцэрт дазволяць правесці, Сяргей Міхалок мае намер вярнуцца ў Беларусь. Цяпер ён з сям'ёй жыве ва Украіне.

Мікіта Недаверкаў

# Спеваку Максу Каржу на пяць гадоў забаранілі ўезд ва Украіну



За канцэрты ў акупаваным Крыме.

Пра гэта беларускі артыст паведаміў на сваіх старонках у сацыяльных сетках.

«У афіцыйных спісах забароненых мяне няма, але ўсё ж уезд закрыты. Вось такія справы. Але... Жыццё ў кайф без Кіева і іншых гарадоў дакладна немагчымае, і тое, што мы з вамі яшчэ не раз разгайдаем, — гэта справа часу! Таму не хвалюйцеся, тур пераносіцца, сітуацыя будзе вырашацца», — напісаў Корж.

Артыст заявіў, што штамп аб забароне на ўезд ва Украіну яму паставілі ў кіеўскім аэрапорце «Барыспаль» пры праходжанні пашпартнага кантролю.

У сакавіку ў Макса Каржа быў запланаваны гастрольны тур па ўкраінскіх гарадах.

Служба бяспекі Украіны патлумачыла, што «грамадзяніну Беларусі Максіму Каржу быў забаронены ўезд на тэрыторыю Украіны тэрмінам на 5 гадоў».

У ліпені мінулага года прайшлі яго канцэрты ў Сімферопалі і Севастопалі, якія з'яўляюцца акупаванай украінскай тэрыторыяй.

«Яны не мелі мэты нанясення шкоды якой-небудзь краіне, бо мы — хлопчыкі і дзяўчынкі па-за палітыкай, выступаем усюды, ходзяць на нашы канцэрты такія ж апалітычныя маладзёны, і адзіная мэта, якую мы пераследуем, — гэта адрыў і пазітыў. Ніякіх гучных заяваў я дакладна не рабіў», — пракаментаваў спявак забарону.

ЯМ

# Зміцер Vinsent Папко: Беларус — гэта і ёсць еўрапеец

Зміцер Папко, ён жа *Vinsent*, — беларускамоўны рэп-выканаўца. У свае 27 гадоў ён выдаў два альбомы, зняўся ў фільмах «Вышэй за неба» і «Жыве Беларусь!», пажыў за мяжой і вярнуўся ў Беларусь. У інтэрв'ю «Нашай Ніве» *Vinsent* распавёў пра сваю сям'ю, маленькія беларускія гарадкі і пра тое, што такое беларуская музыка.

**«Наша Ніва»: Вы цяпер ездзіце з выступамі ў межах курсаў «Мова нанова» па беларускіх гарадах. Якія вашыя ўражанні?**

**Vinsent:** Сама ідэя курсаў — вельмі добрая. Я думаю, пытанне мовы важнае для беларусаў, важнейшае за эканоміку і палітыку, якой фактычна няма. Таму я не мог гэтую ідэю не падтрымаць. Па-другое, мне вельмі цікава падарожнічаць, бо калі я яшчэ пабываю ў Астраўцы, напрыклад? Гэты тур дапамагае пабываць не ў абласных гарадах, а ў маленькіх, дзе я б не ладзіў канцэрты, — гэта нерэнтабельна. А аказваецца, што і там народ цікавіцца маёй музыкай і чакае.

Той жа Астравец — маленькі горад на ўскрайку Беларусі. Але і там ёсць нейкае культурнае жыццё, людзі самаарганізуюцца, штосьці робяць, хапае моладзі, клёвых людзей.

**«НН»: Дык Астравец цяпер папулярнае месца, бо будуецца атамная станцыя, з'яўляюцца працоўныя месцы.**

**Vinsent:** Так, прычым я чуў, што мясцовыя не надта хочуць, каб яе там будавалі, людзі ж пасля Чарнобыля напужаныя... Нават і Вільня напужаная.

Але сам я не бяруся ацэньваць, ці патрэбная яна. Не ведаю.

Для мяне цікава яшчэ, што Астравец, Ашмяны — гэта ж сэрца ВКЛ, Віленскі край. Я вельмі люблю гэты рэгіён. Там абсалютна еўрапейскія гарады, проста яны прайшлі праз савецкую мясарубку і займелі такі выгляд, які маюць. У нармальнай краіне людзі б жылі там. А ў нас усе едуць у Мінск, і гэта праблема, бо фактычна ў Беларусі сталіца — адзіны горад для жыцця, усё канцэнтруецца толькі тут. Такія слабыя рэгіёны, як у нас, мала дзе сустрэнеш у іншых еўрапейскіх краінах.

**«НН»: А вы самі з Мінска?**

**Vinsent:** Я з Івацэвічаў. Але і мне толькі Мінск дазваляе рэалізоўвацца. База павінна быць у Мінску. Ды і зручна ў плане гастроляў, што жывеш у цэнтры краіны.

Але калі казаць пра людзей, якія няшмат ездзяць па працы, тыя ж эканамісты, умоўна, то шкада, што шмат народу з'язджае ў сталіцу. Я б хацеў, каб нашыя маленькія гарады адрадзіліся, каб людзям было ўтульна там жыць.

Тое ж Маладзечна мне вельмі падабаецца. Прычым, там жа жыве амаль сто тысяч, шмат чаго ёсць: і бібліятэкі, і цэрквы, і гандлёвыя цэнтры, і нават лядовы палац... Усё «па-багатаму»! Але мясцовыя скардзяцца, што гэта хіба не самы беспрацоўны горад у краіне.

**«НН»: Калі вы пачалі пра бацькоў і свой шлях да мовы — раскажыце падрабязней трохі.**

**Vinsent:** На мяне, я думаю, паўплываў інтэрнэт. Калі ён з'явіўся, я быў яшчэ школьнікам, я пачаў шукаць музыку, чытаць беларускія навіны на незалежных сайтах, чытаць пра гісторыю. Тады ж быў яшчэ dial-up, я займаў тэлефон пастаянна, мама злавалася (*усміхаецца*).




Маці ў мяне эканамістка, бацька — інжынер. Калі я пачаў цікавіцца сваім родам, даведаўся, што з боку маці амаль усе паходзяць з вёскі Выганашчы ў Івацэвіцкім раёне — сяляне, крэпкія, шчырыя людзі.

А па бацьку — ёсць некалькі прафесароў, жонка дзедавага брата паходзіць з роду Радзівілаў...

**«НН»: А як бацькі і сваякі рэагуюць на тое, што вы рэп-музыка?**

**Vinsent:** Ну, на сямейных мерапрыемствах мама заўсёды просіць, каб я штосьці праспяваў (*смяецца*). Я, праўда, адмаўляюся. Гэта ж як бухгалтара прасіць падчас свята падлічыць баланс.

Бацькі асабліва не лезуць у мае справы. Трохі ганарацца. Ва ўсякім выпадку не кажуць: «Знайдзі нармальную работу».

**«НН»: А «Жыве Беларусь!» бацькі глядзелі?**

**Vinsent:** Фільм, напэўна, не бачылі, можа, трэйлеры толькі..

**«НН»: Вы самі ім не паказвалі?**

**Vinsent:** Мне не надта хацелася... Бо яны ж могуць не зразумець, што гэта фільм, тым больш там рэалістычна паказана, як мяне б'юць... Думаю, ім было б цяжка глядзець.

**«НН»: У вас нядаўна быў выступ у Лондане. Плюс вы шмат часу жылі ў Польшчы. Ёсць розніца паміж беларусам, які жыве ў Беларусі, і беларусам, які жыве за мяжой?**

**Vinsent:** Яны вельмі падобныя, насамрэч. Але тыя, хто шмат гадоў жыве на Захадзе, ужо маюць трошкі іншы менталітэт. Беларусы здольныя да самых высокіх дасягненняў. У тым жа Лондане я сустрэў беларусаў, якія працуюць на найлепшыя карпарацыі, выцягваюць эканоміку на такім узроўні, да якога ў нас яшчэ не дайшлі. І гэтыя беларусы вытрымліваюць канкурэнцыю на рынку працы, прычым, каб атрымаць працу, беларус павінен быць не такім, як брытанец, а яшчэ лепшым. І ў іх атрымліваецца.

Яшчэ цікава, што ў тым жа Лондане беларусы запальваюць мясцовых цікавасцю да Беларусі. Быў такі брытанец Гай Пікарда. Дык ён пазнаёміўся з беларусамі і захапіўся нашай культурай. У выніку ён сабраў столькі беларускіх песень, колькі не кожны тут ведае.

У Лондане будуецца цяпер беларуская царква. Яе архітэктар — кітаец, які адмыслова прыязджаў у Беларусь, каб пазнаёміцца з мясцовай архітэктурай.

**«НН»: А чым беларус адрозніваецца ад еўрапейца?**

**Vinsent:** Беларус — гэта і ёсць еўрапеец. Важна ўвогуле выкараніць звычку казаць: «Паеду ў Еўропу». А ты дзе сядзіш, у Азіі? Ты і ёсць Еўропа!

**«НН»: Яшчэ пытанне музычнае. Беларускі рэп — хіба гэта не такі ж аксюмаран, як і «рускі рок»?**

**Vinsent:** Чаму? Нам патрэбен і беларускі рэп, і беларускі рок, мы павінны мець сваё. Да таго ж, нярэдка таго ж Макса Каржа запісваюць у беларускія рэперы, але гэта рэп рускі, зразумейце, людзі! Не прыйдзе палянку ў галаву штосьці рабіць рэп там на рускай мове і назваць гэта «польскім рэпам», не! Увогуле, у дачыненні да Расіі ў нас стакгольмскі сіндром. А беларускае — гэта толькі тое, што на беларускай мове!

Гутарыў Улад Швядовіч

**Віктар Кіслы, Іван Міхневіч, Мікалай Кацалапаў — сузаснавальнікі «Свету танкаў».**

# Сябры з БДУ сталі першымі беларускімі мільярдэрамі

Амерыканскае агенцтва *Bloomberg* абнавіла ўласны індэкс сусветных багацеяў. Паводле інфармацыі фінансістаў, у Беларусі з'явіўся першы мільярдэр — стваральнік камп'ютарнай гульні «Свет танкаў» Віктар Кіслы. 39-гадовы бізнэсовец адмовіўся каментаваць падлікі агенцтва, запэўніўшы, што ніколі не спрабаваў лічыць уласныя грошы, а ладжыццё вядзе «вельмі сціплы». «Наша Ніва» пісала пра ягоны жыццёвы шлях у папярэднім нумары.

Па ацэнцы *Bloomberg*, агульны кошт кампаніі «Варгеймінг», якая заснавала «Свет танкаў», складае каля $1,5 мільярда.

Карпарацыя, створаная беларусамі, уключае ў сябе 15 цэнтраў, раскіданых па ўсім свеце — ад амерыканскага Осціна да аўстралійскага Сіднея. Многія з іх зарэгістраваны як розныя юрыдычныя асобы. Аднак цэнтральны офіс кампаніі знаходзіцца на Кіпры.

Нагрувашчаная структура ўскладняе пошукі ўласнікаў. Паводле ацэнкі экспертаў, долі асобы у «Варгеймінгу» размеркаваныя наступным чынам: Віктару Кісламу належаць 38,5%, ягонаму бацьку Уладзіміру — яшчэ 25,5%. Амаль усю рэшту дзеляць напалам Мікалай Кацалапаў і Іван Міхневіч (па 17%). Разам з Кіслым яны вучыліся ў БДУ.

**Мікалай Кацалапаў**



У «Варгеймінгу» Мікалай займае пасаду дырэктара па развіцці бізнэсу. У заходніх СМІ 36-гадовы беларус часцяком падпісаны пад іменем «Нік». Скончыў фізічны факультэт БДУ.

Першыя гады яго кар'еры прайшлі ў кампаніі *InterVelopers*. Прагамісты займаліся інтэрнэт-рэкламай і дызайнам. Неўзабаве кампанія пераарыентавалася на распрацоўку гульняў і пачала супрацоўнічаць з «Варгеймінгам».

З 2002 года Кацалапаў стаў адказваць за развіццё бізнэсу ў «Варгеймінгу». Гэтым ён займаецца дагэтуль. Экспансія кампаніі ў іншыя краіны — справа ягонага розуму.

Кацалапаў — непублічны бізнэсовец. У беларускім інтэрнэце ён узгадваўся толькі аднойчы, пасля дарагой угоды ($675 тысяч) па куплі кватэры на сталічнай вуліцы Чэхава.

**Іван Міхневіч**



Іван нарадзіўся ў 1979 годзе. Ён атрымаў магістарскую ступень на факультэце прыкладной матэматыкі і інфарматыкі БДУ, а пасля яшчэ вывучыўся на эканаміста.

У 2000 годзе ён удзельнічаў ад Беларусі ў Міжнароднай студэнцкай алімпіядзе па праграмаванні.

У «Варгеймінгу» Іван быў фактычна ад стварэння кампаніі, яшчэ ў час навучання ва ўніверсітэце. Міхневіч адзначае, што спачатку быў тэхнічным дырэктарам карпарацыі, а пасля стаў адказным за фінансы.

«Рэальна ўжо ўсё гэта надакучыла, і час пачынаць новую кар'еру, на новым месцы, у новай галіне. Хутчэй за ўсё, не ў інфармацыйных тэхналогіях», — расказваў Міхневіч пра свае планы некалькі гадоў таму.

Яшчэ ў 2011 годзе ён паспрабаваў сябе ў нафтавым бізнэсе. Была створана кампанія *Synergy Horizon*, якая займалася вырабам сарбентаў для ліквідацыі працёкаў нафтапрадуктаў. «Ключавымі рынкамі збыту з'яўляюцца бліжэйшыя нафтаздабываючыя рэгіёны — Расія і краіны Блізкага Усходу», — адзначаецца на сайце кампаніі. Бізнэс зарэгістраваны на Кіпры, але вытворчасць арганізаваная ў Рэчыцкім раёне.

На старонках Міхневіча ў сацыяльных сетках пазначана, што ён працаваў у «Варгеймінгу» да верасня 2014 года. Пасля беларус стаў партнёрам у прагамісцкай кампаніі *Alpein Software*, зарэгістраванай у Германіі і Швейцарыі.

Апроч таго, на працягу апошніх гадоў працуе інвестыцыйны фонд Міхневіча — *SCSS Fund Management*.

**Ягор Марціновіч**



**Офіс «Варгеймінга» ў Нікасіі (Кіпр)**

# На Віцебшчыне затрымкі заробкаў на вёсцы паставілі людзей на мяжу адчаю

На дварэ пачатак сакавіка, а многія гаспадаркі не разлічыліся з работнікамі яшчэ за лістапад.

З розных куткоў Віцебскай вобласці даходзяць весткі, што прадпрыемствы сельскай гаспадаркі моцна затрымліваюць выплату заробкаў. Самі заробкі ўпалі нашмат ніжэй за афіцыйна вызначаную мінімальную зарплату, іх часткова выдаюць прадуктамі або чэкамі на набыццё тавараў у сетцы Белкаапсаюза.

Праз сацыяльныя сеткі мы сабралі сведчанні пра нявыплату заробкаў больш як у дзясятку гаспадарак у Глыбоцкім і Докшыцкім раёнах. Весткі пра затрымку заробкаў і іх выплату прадуктамі даходзілі і з Мёрскага раёна, і з Шаркаўшчынскага, і з Браслаўскага. Выглядае, што такая сітуацыя склалася ў большасці аграпрадпрыемстваў Паазер'я і закранула дзясяткі тысяч людзей.

**«У ААТ «Залатая падкова»** (вёска Бабічы [Глыбоцкі раён]) перад Новым годам кіраўніцтва атрымала па 500.000 рублёў, рабочыя — па 200.000 — 300.000».

«У **КУГСП «Докшыцкі»** [Крулеўшчына, Докшыцкі раён] нядаўна выплацілі 70% заробку за кастрычнік. Дырэктар кажа работнікам, што раён не дае грошай. Амаль у кожным калгасе такая сітуацыя».

**«ААТ «Залатая падкова»**. У даяркі заробак 700.000, выплочваюць 500.000. Апошні заробак я атрымала за лістапад. Электрычнасці на рабоце няма [адключылі за нявыплату?]. Адносіны кіраўнікоў да падначаленых — жахлівыя».

«У **ААТ «Сельцы»** [Глыбоцкі раён] заробак складае 500.000 — 800.000 рублёў. На 200 тысяч выдаецца прадукцыяй».

У студзені ў сацыяльных сетках было апублікавана фота разліковага лістка. Паводле таго, хто публікаваў, гэта — заробак супрацоўніка ААТ «Залатая падкова» за лістапад 2015 года. За працу, пагадзінна і здзельна, за стаж і за выходныя і святы налічана 696.294 рублёў. Але ў наступным радку чытаем: «Знята з-за адсутнасці выручкі» — 283.955 рублёў. Яшчэ 4.413 рублі аднялі на іншыя патрэбы. «Да выдачы на рукі» засталося ўсяго 407.926 рублёў.

**«У СВК «Стрынадкі»** [Глыбоцкі раён] не выплацілі 70% працэнтаў заробку за ліпень і 100% за жнівень. Кожны месяц трэба выбіраць у магазіне Белкаапсаюза тавары на 30% заробку. Нядаўна далі заробак за лістапад. На мясакамбінаце ў Глыбокім загадваюць выбіраць у крамах Белкаапсаюза і ў краме прадпрыемства на 30% заробку. Калі не выбраў гэтую суму, то даюць тушонку на рэшту сумы».

«Сваякі жывуць у Стрынадках, Падсвільскі сельсавет. Там таксама не цалкам выдаюць заробак. Даюць па 20 працэнтаў. Далі «працэнты» за снежань і прадукцыю. І па 100.000 на магазін. За лета зусім «скруцілі» грошы... Спадзяюся, маё імя нідзе не ўсплыве».

**«У ААТ «Глыбоцкі аграсэрвіс»**, дзе я працую, на сёння не выплачаны заробак за снежань. Працоўнае месца стала ўсяго толькі ўмоўнасцю, за якую многія трымаюцца».

**«У ААТ «Таргуны»** [Докшыцкі раён] людзі чакаюць заробак за снежань. Я чую, што ў іншых калгасах затрымкі большыя, чым у нас».

«Сітцы [**ААТ «АграСітцы», Докшыцкі раён**] — гэта нешта. За кастрычнік каму далі заробак, каму не далі, каму на краму пералічылі. Там безнадзейнасць».

«Людзі ў роспачы. Бачыў, як плакалі жанчыны, бо грошай няма. На Новы год далі кожнаму па торце — і ўсё. Бухгалтары напісалі заявы на звальненне. Не падпісалі ім. Кіраўнік прыгразіў: хто звольніцца, не дазволяць нідзе больш уладкавацца», — піша яшчэ адзін жыхар вёскі Сітцы.

Нам паведамляюць таксама пра затрымку заробкаў у **КУГСП «За Радзіму»** (Удзела, Глыбоцкі раён), **ДП «Азярцы»** (Глыбоцкі раён), **філіяле «Прошкава» ААТ «Глыбоцкі райаграсэрвіс»**, **ААТ «Барсучанка»** (Докшыцкі раён) у гаспадарках Браслаўскага, Шаркаўшчынскага раёнаў.

21 студзеня на жывую лінію намесніка старшыні Віцебскага аблвыканкама Уладзіміра Белавусава тэлефанаваў работнік фермы з Докшыцкага раёна і распавёў, што жыве без заробку з кастрычніка.

Гэтаксама скардзілася, што не атрымала заробку за кастрычнік, работніца фермы, маці траіх дзяцей з Мёрскага раёна.

Інфармацыйная агенцыя БелТА паведаміла, што гэтыя пытанні «ўзятыя на кантроль». Месяц кантролю прайшоў, але сітуацыя з заробкамі ў аграпрадпрыемствах не змянілася.

**Westki.info**

**Шаркаўшчына — самая бедная ў краіне**

Белстат апублікаваў дадзеныя сярэдніх заробкаў за студзень 2016 года па раёнах. Найменш зарабляюць у Шаркаўшчынскім раёне — 3 920 700 рублёў. Па тагачасным афіцыйным курсе даляра гэта $196. Аднак пасля вылічэння падаткаў на руках работніка застаецца толькі $169.

**Сярэдні заробак зваліўся да 6,55 мільёна**

У параўнанні са снежнем ён знізіўся ажно на 872 тысяч рублёў. Калі лічыць па сярэднеўзважаным курсе даляра за студзень, то гэта ўсяго $328 (прычым «брудныімі»).

# Як віцэ-прэм'ер Русы званіў на прадпрыемствы і звяртаўся па-англійску

Віцэ-прэм'ер Міхаіл Русы расказаў у эфіры СТВ пра эксперымент, праведзены на сельскагаспадарчых прадпрыемствах.

— Мы правялі некалькі эксперыментаў на прадмет таго, што званок ідзе на англійскай мове і не заўсёды ёсць адказ у прыёмнай, каб паклікаць спецыяліста, які пагутарыў бы з тым, хто хацеў бы купіць...

– *(карэспандэнт, перабіваючы)* **То бок вы асабіста званілі?**

– ...Канешне. Таму ёсць пытанні...

– *(карэспандэнт, перабіваючы)* **Дык што ў адказ? Проста кладуць трубку?**

– Кладуць трубку! Але гэта асобны разбор па гэтых прадпрыемствах.

З адказаў Міхаіла Русага было незразумела, ці асабіста ён абтэлефаноўваў прадпрыемствы.

**БЮ**

# Трацiна заробку мясам і малаком

У Полацку ўкараняюць натуральную форму аплаты.

У інтэрнэце з'явіўся дакумент, паводле якога віцебскі канцэрн «Мяса-малочныя прадукты» абавязаў Полацкі малочны камбінат выплачваць не менш за 30% заробку работнікам сваёй прадукцыяй.

Асаблівага выбару ў полацкіх работнікаў мясцовай «малочкі» не будзе — дакумент носіць загадны характар, і пераход на натуральную форму аплаты працы прапішуць у кантрактах з работнікамі.

Намеснік дырэктара ААТ «Полацкі малочны камбінат» Віктар Генец пацвердзіў, што неўзабаве работнікам прымусова давядзецца пакідаць трацiну заробку ў фірмовай краме завода. Праўда, сам ён нічога дрэннага ў гэтай навіне не бачыць і нават рады, што «не давядзецца хадзіць у іншыя крамы».

«Не разумею, што ў гэтым дрэннага? Захацеў нешта купіць — пайшоў у нашу краму, затаварыўся. Не трэба будзе ў іншыя крамы ездзіць, шукаць нешта. Усё сваё, усё выдатнай якасці. Пра якую дыскрымінацыю можа быць гаворка?» — здзіўляецца намеснік дырэктара.

Дакумент прапісвае яшчэ адно нагаўвядзенне не на карысць работнікаў. Заробак ім цяпер будуць выдаваць у апошні дзень месяца, што ідзе за разліковым месяцам. Так, напрыклад, заробак за люты работнікі ўбачаць толькі ў самым канцы сакавіка.

**Charter97.org**

# Марыяна Шчоткіна абараніла кандыдацкую дысертацыю з сусветным рэкордам

**Міністр працы прапануе выдаваць недзяржаўным арганізацыям гранты на сацыяльнае абслугоўванне грамадзян.**




Марыяна Шчоткіна (у цэнтры) падчас перадвыбарнай агітацыі за Аляксандра Лукашэнку.

Беларускія чыноўнікі рэдка абараняюць дысертацыі. Некалі Аляксандр Лукашэнка раскрытыкаваў практыку, калі міністры падчас працы нібыта адначасова займаюцца навуковымі даследаваннямі. І з таго часу як адрэзала. Чыноўнікі праходзяць перападрыхтоўку ў Акадэміі кіравання, але аспірантура не карыстаецца ў іх папулярнасцю.

Традыцыю вырашыла перапыніць міністр працы і сацыяльнай абароны Марыяна Шчоткіна.

У савецкія часы яна скончыла Ленінградскі дзяржаўны ўніверсітэт па спецыяльнасці «фізіка», а 9 гадоў таму атрымала другую вышэйшую адукацыю ў Акадэміі кіравання. Выкладчыкі наракалі, што яна ўсё ніяк не дапіша сваю дысертацыю.

І вось нарэшце справа дайшла да лагічнага завяршэння. Дысертацыя называецца «Дзяржаўная сацыяльная замова ў арганізацыі сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва Беларусі: сацыялагічны падыход».

Навуковы кіраўнік Шчоткінай — Святлана Лапіна, загадчыца кафедры дзяржаўнага кіравання сацыяльнай сферай і беларусазнаўства Інстытута дзяржаўнай службы Акадэміі кіравання.

Сярод апанентаў — Святлана Ліхачова з Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта і Георгій Явелькін з Інстытута нацыянальнай бяспекі. Праўда, па стане здароўя Явелькін прыйсці не змог.

### У чым сутнасць дысертацыі?

Шчоткіна прызнае, што дзяржава не дае рады сацыяльнаму абслугоўванню пры цяперашній дэмаграфічнай сітуацыі (павелічэнне колькасці інвалідаў, пенсіянераў і адзінокіх людзей), а таксама расце патрабаванняў насельніцтва да якасці паслуг.

Таму міністр прапануе развіваць сістэму сацыяльнага абслугоўвання з дапамогай недзяржаўных арганізацый (НДА). Іншымі словамі, дзяржава будзе рабіць сацыяльную замову і аплачваць яе на аснове грантаў ці выдачы ваўчараў.

Паводле першага варыянта, праводзіцца конкурс сярод НДА па доглядзе адзінокіх пенсіянераў. Дзяржава выплачвае арганізацыі-пераможцу выдаткі па доглядзе (у поўнай ці частковай ступені).

Пры выкарыстанні другой схемы пенсіянер сам абірае НДА, якая будзе яго даглядаць. А дзяржава пасля кампенсуе арганізацыі выдаткі.

Падобныя сістэмы працуюць у многіх еўрапейскіх краінах. У чым тады ўнёсак Шчоткінай?

«Навуковае даследаванне, якое ўключае аналіз літаратуры, распрацоўку канцэпцыі і праграмы даследавання, інструментарыя для сацыялагічных даследаванняў, а таксама навуковы аналіз іх вынікаў, выкананае непасрэдна аўтарам. Дысертацыя ... выканана аўтарам самастойна на аснове вывучэння прац айчынных і замежных навукоўцаў, а таксама міжнароднай практыкі па даследаваных праблемах. Палажэнні, якія выносяцца на абарону, распрацаваны суіскальнікам асабіста», — адзначаецца ў аўтарэфераце.

Незалежна ад таго, ці будзе зацверджаная дысертацыя Шчоткінай, некаторыя яе палажэнні ўжо пачалі працаваць. Летась уступіў у сілу пралабіраваны міністрам закон аб «сацыяльнай замове». За 2015 год было заключана 44 дамовы на аказанне сацыяльных паслуг: з Беларускім таварыствам Чырвонага Крыжа, таварыствам інвалідаў па зроку, каталіцкімі і праваслаўнымі грамадамі.

Чыноўнікі былі гатовыя працаваць па дзвюх схемах — па праектах ці грантах. Атрыманыя гранты можна было траціць толькі на заробак супрацоўнікаў НДА. Калі ж рэалізоўваць праект, то дзяржава прапаноўвала выплачваць 50% ад ягонага кошту. Астатнія сродкі трэба было шукаць самім.

Прадстаўнікі НДА адзначаюць, што схема пакуль непразрыстая: алгарытм правядзення конкурсаў і далейшага супрацоўніцтва з дзяржавай распрацаваны слаба.

### «Падтрымана адзінагалосна»

Абарона навуковай працы Шчоткінай праходзіла 24 лютага ў будынку юрыдычнага факультэта БДУ. У залу прыйшло каля паўсотні слухачоў. Фатаграфаванне і вядзенне аўдыёзапісу было забаронена.

Марыяна Шчоткіна была ў сіняй сукенцы з зялёным каўнярам.

Першыя хвіліны абароны яна заўважна хвалявалася, але пасля пачувалася ўпэўнена. Адрываючыся ад паперы, Шчоткіна прыводзіла шмат прыкладаў, не прыведзеных у аўтарэфераце.

Па словах міністра, з дзяржаўнага сацыяльнага абслугоўвання выпадаюць пацыенты з псіхічнымі захворваннямі, наркazалежныя, а таксама хворыя на анкалогію. Гэтыя групы Шчоткіна прапануе «аддаць» НДА.

Шчоткіна звярнула ўвагу, што ў грамадстве існуе запыт на элітнае сацыяльнае абслугоўванне. Напрыклад, сталая жанчына была гатовая аддаць кватэру дзяржаве ўзамен на жыццё ў пакоі з джакузі. На думку міністра, элітнае абслугоўванне таксама могуць узяць на сябе НДА.

У міністра папрасілі ўдакладніць: досвед якіх краін аналізаваўся? «Швецыя, Данія, Фінляндыя, Нарвегія, Прыбалтыка... — пачала пералічваць Шчоткіна. — З краін СНД бралі Расію і Казахстан».

Якія заўвагі зрабілі апаненты?

Па-першае, няма канкрэтыкі ў механізмах адбору НДА, з якімі збіраецца супрацоўнічаць дзяржава. Таксама не зразумела, як фарміраваць конкурсныя камісіі.

Па-другое, існаванне ваўчараў, якія прапануе выкарыстоўваць Шчоткіна, пакуль не прадугледжваецца заканадаўствам. Міністр патлумачыла, што падчас узгадненняў заканадаўства аб сацыяльным абслугоўванні ваўчары былі выкраслены з дакумента. Аднак чыноўніца спадзяецца, што навоўвядзенне ўдасца ўкараніць.

Апроч таго, Шчоткінай як члену ўрада далі параду: наладзіць такое ж супрацоўніцтва з НДА ў астатніх сферах — страхаванні, адукацыі і іншых. З гэтым чыноўніца пагадзілася.

Абарона працягвалася каля дзвюх гадзін. З кожнай хвілінай колькасць кампліментаў на адрас Шчоткінай павялічвалася.

«Наш суіскальнік — унікум», — заявіла адна з экспертаў перад галасаваннем навуковай рады і выказала ўпэўненасць, што Шчоткіна не спыніцца на кандыдацкай дысертацыі.

Дэпутат і рэктар Акадэміі кіравання Марат Жылінскі расказаў, які гонар для прэзідэнцкай акадэміі, што іх ашчаслівіла Шчоткіна. Ён узгадаў, як дэпутаты хацелі знайсці недахопы ў нейкіх выступах Шчоткінай, але яна, як навукоўца, годна адказала ім.

«Я магу сказаць толькі дзякуй за вашу падтрымку», — падсумавала міністр працы і сацыяльнай абароны.

Дысертацыю Шчоткінай падтрымалі адзінагалосна. Па выніках тайнага галасавання навуковай рады яе сярэдні бал — 4,8 па пяцібальнай сістэме. «Сусветны рэкорд! У нас такога выніку яшчэ не было! Максімум — 4,2», — заявіў навуковы сакратар.

Паводле працэдуры, канчатковае рашэнне застанецца за Вышэйшай атэстацыйнай камісіяй.

**Ягор Марціновіч**

**Марыяна Шчоткіна**

Нарадзілася ў 1958 на востраве Кільдын Мурманскай вобласці Расіі.

Скончыла Ленінградскі дзяржаўны ўніверсітэт імя А. А. Жданава па спецыяльнасці «фізіка» (1982) і Акадэмію кіравання (2007).

У 1982—1986 працавала інжынерам ВА «Інтэграл», інжынерам філіяла Акустычнага інстытута імя М. Андрэева ў Севераморску.

У 1986 пераехала ў Мінск. Зрабіла кар'еру ў адукацыі — настаўніца фізікі, намесніца дырэктара школы, дырэктарка школы, начальніца ўпраўлення адукацыі адміністрацыі Фрунзенскага раёна Мінска.

У 2003—2005 — намесніца кіраўніка адміністрацыі Ленінскага раёна Мінска, у 2005—2007 — старшыня камітэта па працы, занятасці і сацыяльнай абароне Мінгарвыканкама.

З 2007 намесніца, першая намесніца міністра працы і сацыяльнай абароны. З 2009 — міністр працы і сацыяльнай абароны.

Замужам, мае сына.

**Даследчыкі ва ўладзе**

**Дактары навук:**

Медыцынскіх — кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта Аляксандр Косінец

Паліталагічных — кіраўнік Памежнага камітэта Леанід Мальцаў

Фізіка-матэматычных — міністр адукацыі Міхаіл Жураўкоў

Эканамічных — старшыня савета рэспублікі Міхаіл Мяснікові, старшыня Мінаблвыканкама Сямён Шапіра

**Кандыдаты навук:**

Юрыдычных — кіраўнік Інфармацыйна-аналітычнага цэнтра Аляксей Дзербін

Эканамічных — старшыня Нацбанка Павел Калаўр, першы віцэ-прэм'ер Васіль Мацюшэўскі, старшыня Дзяржаўнага камітэта па навуцы і тэхналогіях Аляксандр Шумілін

Філасофскіх — міністр культуры Барыс Святлоў

Ваенных — сакратар Рады бяспекі Станіслаў Зась



**«Не хочацца гаварыць на мове Янкі Купалы і Якуба Коласа пра абставіны злачынстваў»**

Першы намеснік старшыні Вярхоўнага суда Валерый Калінковіч адказаў на прэс-канферэнцыі на пытанне пра рэдкае выкарыстанне беларускай мовы ў судовых працэсах:

«Беларуская мова найперш не запатрабаваная бакамі. Таму часцей працэсы ідуць на рускай мове. Асабіста для мяне беларуская мова — гэта мова Якуба Коласа і Янкі Купалы. Я зараз дачытваю кнігу Алега Лойкі «Францыск Скарына, або Сонца маладзіковае». Мне не хочацца гаварыць аб абставінах злачынстваў на беларускай мове. Не таму мяне маці вучыла».

# Пярэваратняў з КДБ судзяць за ўдзел у найбуйнейшым наркакартэлі Беларусі

Працяг са старонкі 1.

Астатнія фігуранты ў «звычайным жыцці» займаліся хто чым. 27-гадовы Яўген Цімохаўцаў — менеджар па продажах у адной са сталічных фірмаў, мае вышэйшую адукацыю.

24-гадовы мінчук Сяргей Дамашкевіч, мае сярэднюю спецыяльную адукацыю, раней быў судзімы за абарот наркотыкаў.

24-гадовы токар з Навапалацка Антон Марозаў ужо быў судзімы раней за наркотыкі.

44-гадовы Андрэй Працэвіч, ураджэнец Мінскай вобласці, мае вышэйшую адукацыю, жыў і працаваў у Маскве менеджарам, неаднаразова судзімы, у тым ліку за наркотыкі.

Марат Багель, ураджэнец Гродзенскай вобласці, да затрымання таксама жыў у Маскве, раней судзімы, мае сярэднюю адукацыю.

31-гадовы мінчук Дзмітрый Гаўрыкаў, раней быў судзімы за абарот наркотыкаў, мае сярэднюю адукацыю.

27-гадовы Віталь Міхалоўскі, жыхар сталіцы, мае сярэднюю адукацыю, беспрацоўны.

Фёдар Бухавец — беспрацоўны ўраджэнец Мінска, жыў у Падмаскоўі.

23-гадовы мінчук Максім Гайдук, мае сярэднюю спецыяльную адукацыю, таксама нідзе не працаваў.

Двое фігурантаў не былі ўзятыя пад варту. Гэта жыхары Мінска — 44-гадовы Валеры Страбкоў і 28-гадовы Фёдар Артамонаў.

На лаве падсудных таксама дзве дзяўчыны. Адна з іх — 26-гадовая Ірына Семяняка — грамадзянка Расійскай Федэрацыі. Другая, 24-гадовая беларуска Аліна Цэрагера, па версіі следства, была кіраўніцай злачыннай групы па распаўсюдзе наркотыкаў. У яе абавязкі ўваходзіла размеркаванне функцый паміж удзельнікамі, рэгуляванне цэн, рэклама ў інтэрнэце, упакоўка наркотыку, агульнае адміністраванне дзейнасці.




Канстанцін Вілюга (у цэнтры) збіраўся схавацца ў Маскве, але не паспеў. Справа — Ігар Карыцкі з КДБ па Брэсцкай вобласці.

Удзельнікі групы шыфравалі сваю перапіску, а ў апошні час выкарыстоўвалі толькі анлайн-плацяжы.

У чэрвені 2014 года праваахоўнікі паведамілі, што ў Мінску ў доме на праспекце Дзяржынскага затрыманая 23-гадовая дзяўчына, якая арганізавала гандаль новым на той час для Беларусі наркотыкам.

Напэўна, гаворка ішла менавіта пра Цэрагеру. У арандаванай кватэры і ў аўтамабілі праваахоўнікі тады выявілі некалькі кілаграмаў забароненых рэчываў, а таксама пачак банкаўскіх картак, тры канверты з грашыма, сшытак з бухгалтэрыяй, ноўтбук з перапіскай і сцяг Расіі.

Цэрагера, паводле слоў пракурора, таксама ўдзельнічала ў стварэнні філіялаў «бізнэсу» Вілюгі ў Расіі. У Маскве АЗГ узначальваў нейкі Рыбко. Вядома, што ён затрыманы. Вырашаецца пытанне аб яго перадачы ў Беларусь. Пазней злачынную групу ў Расіі ўзначаліў Фёдар Бухавец, які зараз праходзіць абвінавачаным па названай крымінальнай справе.

Суд працягваецца.

**Віталь Васількоў**

# Мясныя жарсці па-бабруйску

**Былы дырэктар мясакамбіната пад вартай, а яго жонка спрабуе давесці невінаватасць мужа.**

Былы дырэктар Бабруйскага мясакамбіната Андрэй Ісайчанка амаль год знаходзіцца пад вартай за перавышэнне паўнамоцтваў, а таксама за незаконнае выкарыстанне працы падначаленых. Тым часам ягоная жонка Наталля спрабуе даказаць, што муж не вінаваты.

Ісайчанку абвінавачваюць у двух злачынствах. Па-першае, следчыя лічаць, што ён перавысіў паўнамоцтвы, калі арганізаваў заключэнне кантрактаў з двума расейскімі партнёрамі на ўмовах аплаты з адтэрміноўкай. Гэта прынесла страты памерам 33 мільярды рублёў. Па-другое, былога дырэктара абвінавачваюць у тым, што ён незаконна выкарыстоўваў працу падначаленых на сваім зямельным участку.

«Сваімі супрацьпраўнымі дзеяннямі абвінавачаны дыскрэдытаваў аўтарытэт кіраўніка дзяржаўнага прадпрыемства ў вачах падпарадкаваных», — адзначыла Аксана Салянюк, афіцыйны прадстаўнік Следчага камітэта па Магілёўскай вобласці.

Аднак жонка былога дырэктара



не пагаджаецца са следчымі. Яна сцвярджае, што рабочыя ездзілі на будоўлю лецішча добраахвотна!

«У нас нармальныя адносіны з людзьмі, нашыя дзеці сябруюць. Чалавечыя адносіны!» — кажа Наталля. Патлумачыць суду гэта будзе складана, бо будоўля на лецішчы вялася ў працоўны час.

З другой прэтэнзіяй праваахоўнікаў да былога дырэктара ўсё складаней. Наталля даводзіць, што праца над аплатай запазычанасці вялася, і больш за тое — ужо пасля таго, як яе мужа «закрылі», дзяржаўны канцэрн «Мясамалпрам» прыняў рашэнне працягваць працу з тымі ж партнёрамі, праз якіх Андрэй Ісайчанка трапіў за краты.

Тыя 33 мільярды рублёў успылі ў 2014 годзе. Іх мясакамбінату былі вінныя дзве расійскія кампаніі: «Беларускі прадукт» з Калугі і «Мясамалпрадукт» з Бранска.

«Справу аб запазычанасці завялі на падставе акта Дзяржкантролю. Але да таго праходзіла шмат праверак, і ніякіх прэтэнзій не было! — узгадвае Наталля Ісайчанка. — 18 жніўня 2014 года Дзяржкантроль правяраў мясакамбінат. У акце было ўказана, што адказнасць за запазычанасць ляжыць на начальніку аддзела знешнеэканамічных сувязяў. Пасля гэтага муж, як кіраўнік камбіната, заплаціў адміністратыўны штраф, яго пераводзяць у першыя намеснікі, в.а. дырэктара становіцца галоўны інжынер Хадасевіч. Пасля гэтага акт праверкі быў перапісаны, і вінаватым стаў мой муж. На базе гэтага акта фарміруецца крымінальная справа», — пераконвае яна.

Цікава, што сам Віктар Хадасевіч займаў дырэктарскую пасаду толькі паўтара месяца. А пасля яго спынілі на прахадной з мясапрадуктамі на 2 мільёны рублёў. Хадасевічу прысудзілі 2 гады пазбаўлення волі, аднак увесь тэрмін ён так і не адбыў. Сёлета яго вызвалілі і адправілі «на цаліну» — выконваць абавязкі старшыні СВК «Ліпаўка» ў глухім Хоцімскім раёне.

Наталля звязалася з расейскімі партнёрамі мясакамбіната. Абедзве фірмы пацвярджаюць, што гатовы выплачваць запазычанасць.

«Яны нікуды не хаваюцца, яны не зніклі з тымі грашыма, наадварот — кажуць, што гатовыя працягваць супрацоўніцтва, гатовыя гасіць запазычанасць, — сцвярджае Наталля Ісайчанка. — Я сама хадзіла да Бонахава [цяперашні кіраўнік Бабруйскага мясакамбіната — «НН»], казала пра гэта».

Расейцы прапанавалі наступную схему: калужскі «Беларускі прадукт» пералічвае поўную суму мясакамбінату, 5% ад гэтай сумы ідзе на пагашэнне запазычанасці, на астатнія грошы набываецца прадукцыя. Пасля яе продажу схема паўтараецца — частка грошай ідзе на запазычанасць, на астатнія набываецца тавар. Такім чынам запазычанасць паступова пагашалася б.

Але гэтая ідэя не пасуе кіраўніцтву мясакамбіната. Спачатку беларускі бок прапанаваў, каб на пагашэнне доўга ішло 20% аплаты, цяпер патрабуе поўнай выплаты запазычанасці.

«У снежні 2015 года мяне запрасілі на пасяджэнне магілёўскага аб'яднання «Мясамалпрама», на якім прынялі рашэнне, што з гэтымі ж расейцамі варта працягваць працаваць, проста трэба рабіць гэта праз трэцюю юрыдычную асобу, — кажа Наталля Ісайчанка. — І ўсіх, здаецца, гэтая схема задаволіла. Але на мясакамбінаце ўсё ж нічога не робяць, наколькі я ведаю. Чаму? Баяцца?»

Сама жанчына спадзяецца, што зможа даказаць, што запазычанасць павінна была быць паступова пагашана. Да таго ж, калі і дзяржаўны канцэрн «Мясамалпрам» рэкамендуе працягваць працу з «праблемнымі» кліентамі, то... «То чаму тады сядзіць мой муж?» — бароніць яго Наталля.

Сам Андрэй Ісайчанка ў сваіх скаргах адзначае, што нельга разглядаць як шкоду дэбіторскую запазычанасць, пакуль не выйшаў тэрмін іскавай даўнасці і пакуль спагнанне запазычанасці магчымае, як гэта і было ў яго выпадку.

Але ж ці прыслухаецца да гэтых аргументаў суд?

На сёння Андрэй Ісайчанка працягвае знаходзіцца пад вартай у чаканні суда. Хадайніцтва аб вызваленні былога дырэктара падпісалі каля 500 супрацоўнікаў камбіната.

**Улад Швядовіч**

# Дзі Капрыа ўзяў «Оскара» ў намінацыі «Найлепшы акцёр». Найлепшы фільм Галівуда — «У цэнтры ўвагі»

Здзейснілася. Амерыканскі акцёр Леанарда Дзі Капрыа нарэшце заваяваў прэстыжную ўзнагароду. Яго шэсць разоў намінавалі, але ўзнагародзілі ўпершыню. А найлепшым фільмам сёлета прызнаная стужка «У цэнтры ўвагі» — пра сілу журналістыкі.

У Лос-Анджэлесе прайшла 88-я цырымонія ўручэння прэстыжнай узнагароды (уручаецца з 1929 г.). «Оскар» уручаецца ў 24 намінацыях, але галоўная інтрыга — найлепшы фільм, найлепшы акцёр і найлепшая актрыса, найлепшыя акцёр і актрыса другога плана, найлепшы сцэнарый.

Найлепшым фільмам прызнана стужка «У цэнтры ўвагі» Тома МакКарці. У ёй няма боек і спецэфектаў, гэта «спакойны» фільм, які, аднак, трымае гледача ў напружанні да апошняй хвіліны. У фільме расказваецца гісторыя пра тое, як журналісты газеты *Boston Globe* выкрывалі святароў-педафілаў. Фільм заснаваны на рэальных падзеях, вынікам якіх стала адстаўка біскупа Бостана Бернарда Лоу і закрыццё 65 прыходаў. Бостан — горад з моцнымі каталіцкімі традыцыямі, і расследаванне гэтай справы значыла для журналістаў процістаянне з блізкімі. Сюжэт разгортваецца ў 2001—2002 гадах на фоне вялікіх падзеяў сусветнай гісторыі, такіх як тэрарыстычная атака на Сусветны гандлёвы цэнтр 11 верасня 2001.



**Анекдот**

Дзі Капрыа — сапраўдны беларус: 20 гадоў цярпеў, але дацярпеў.

«Оскара» ў намінацыі «Найлепшы акцёр» атрымаў Леанарда Дзі Капрыа за фільм «Выжылы». Упершыню на «Оскар» ён намінаваўся ў 1994 з фільмам «Што турбуе Гілберта Грэйпа». Але ні гэтая роля, ні ўдзел у фільмах «Авіятар», «Крывавы алмаз», «Воўк з Уол-стрыт» не прынеслі Леанарда «Оскара».



Найлепшай актрысай была прызнаная Бры Ларсан.

41-гадовы Дзі Капрыа даўно не іграе саладзенькіх роляў. У фільме «Выжылы» яго герой спачатку падае з адхону на вялізную елку, а пасля ратуецца ад холаду ў жываце забітага каня, папярэдне выцягнуўшы вантробы. Гэта брутальны вестэрн, галоўны герой якога, паранены, змагаецца за выжыванне ў суровых зімовых лясах. Згадаецца Фенімор Купер, Джэк Лондан і трошкі Барыс Палявы. Індзейцы і бандыты, англічане і французы, высакародства і хцівасць. І перамога справядлівасці — наколькі яна была магчымая ў дзікай зямлі ў XVIII стагоддзі.

Найлепшай актрысай была прызнаная Бры Ларсан. Яе ўзнагародзілі за фільм «Пакой». Гераіня Ларсан — ахвяра выкрадання. Злачынцы змясцілі яе ў маленькі пакойчык, дзе яна жыве з 5-гадовым сынам Джэкам. Малы сын не бачыў іншай рэальнасці, апроч гэтага пакоя.

Найлепшым рэжысёрам стаў Аляхандра Гансалес Іньярыту з «Выжылым». Іньярыту другі год запар бярэ рэжысёрскі «Оскар». У 2015 ён перамог з трагікамедыяй «Бёрдмэн», які таксама стаў найлепшым фільмам.

Цікава, што ні новыя «Зорныя войны», ні «Марсіянін», нашумелыя ў 2015-м, не ўзялі ніводнага «Оскара». Кінакрытыкі аддалі перавагу якасці перад маскультам.

**Сяргей Мікулевіч**

**Найлепшая актрыса другога плана**

Алісія Вікандэр — «Дзяўчына з Даніі».

**Найлепшы акцёр другога плана**

Марк Райлэнс за «Шпіёнскі мост».

**Найлепшая песня да фільма**

Сэм Сміт Writing's on the Wall («007: Спектр»), музыка і словы Джымі Нейпс і Сэм Сміт

Песня да папярэдняга фільма пра Бонда — Skyfall — таксама атрымала «Оскара».

**Найлепшая музыка**

«Оскар» у Эніа Марыконэ за «Агідную васьмёрку». У гэтай катэгорыі ў «Зорных войнаў» быў апошні шанец атрымаць «Оскар» — яны не ўзялі ні адной прэміі.

**Найлепшы фільм на замежнай мове**

«Сын Саўла» рэжысёра Ласла Немеша пра вязня Асвенціма, які намагаецца знайсці свайго сына.

**Найлепшы гульнявы кароткаметражны фільм**

«Заіка» — рэжысёра Бенджаміна Кліры.

**Найлепшы дакументальны поўнаметражны фільм**

«Эмі» — рэжысёра Азіфа Кападзія. Фільм пра Эмі Уайнхаўс.

**Найлепшы дакументальны кароткаметражны фільм**

«Дзяўчына ў рацэ: Цана прабачэння» рэжысёраў з Пакістана. Фільм пра жанчын, якія сталі ахвярамі рэлігійных забойстваў.

**Найлепшы поўнаметражны анімацыйны фільм**

І гэта — «Галаваломка».

**Найлепшая аператарская праца**

Эмануіл Любецкі за фільм «Выжылы», Любецкі перамагае трэці год запар, летась і пазалетась ён атрымаў «Оскара» за «Гравітацыю» і «Бёрдмэна»

**Шэсць «Оскараў»** узяў «Шалёны Макс», у тым ліку за «найлепшы гук», «найлепшы мантаж гуку», «найлепшы дызайн касцюмаў», «найлепшую працу мастака», «найлепшы грым і прычоскі».

**«Марсіянін»** не атрымаў ніводнай узнагароды.

# У Мінску можа з'явіцца вуліца імя Касцюшкі

Мінскія ўлады маюць намер разгледзець пытанне аб прысваенні імя Тадэвуша Касцюшкі адной са сталічных вуліц. Пра гэта паведамляе выданне «СБ. Беларусь сегодня».

Выданне адзначае, што прапанову ўвекавечыць імя Касцюшкі, усталяваўшы яму помнік у Мінску і назваўшы імем адну са сталічных вуліц або плошчаў, апублікаваў у газеце чытач у пачатку лютага.

У адказе на публікацыю кіраўнік спраў гарвыканкама Мікалай Котаў паведаміў, што пытанне аб прысваенні імя Касцюшкі адной з вуліц можа быць разгледжанае на бліжэйшым пасяджэнні камісіі па найменні і перайменаванні праспектаў, вуліц, плошчаў і іншых складовых частак Мінска.

Выраб твораў манументальнага мастацтва, па словах Котава, за кошт мінскага бюджэту не прадугледжаны.

«Пытанне аб стварэнні помніка Касцюшку мэтазгодна разглядаць пасля наймення тэрыторыі яго імем і вызначэння крыніц фінансавання», — гаворыцца ў лісце.

Вуліцы Касцюшкі ёсць у Польшчы, Расіі, ЗША, Украіне, а таксама ў беларускіх гарадах — Баранавічах, Брэсце, Гродне, Нясвіжы, Пінску. У той жа час на карце Мінска імя нашага знакамітага суайчынніка да гэтага часу няма.



Партрэт Тадэвуша Касцюшкі аўтарства Карла Готліба Швайкарта

Справа ўсенародная

## Без штрафаў не абысціся

Культура чысціні вакол смеццевых бакаў у дварах адрозніваe Беларусь ад перадавых краін Еўропы.

Калі гавораць, што беларускія гарады — чыстыя, я адразу думаю пра сметніцы. Не, не урны на праспектах, а бакі са смеццем у дварах.

Вакол іх у кожным другім выпадку валяецца смецце.

На маю думку, горад не можа прэтэндаваць на званне горада высокай культуры, пакуль у ім няма культуры збору смецця.

Якія прычыны такога стану?

Па-першае, гэта недасканаласць тэхналогіі збору смецця і састарэласць смеццязборных машын. Большасць смеццевых бакаў пакамечаныя, старыя. Калі машына такія падымае, частка смецця рассыпаецца. Як толькі дворнік няздольны адразу падмесці, вецер разносіць смецце па двары.

Па-другое, нізкая культура людзей. Пакажыце мне бак з надпісам «Для паперы», дзе б не ляжалі бутэлькі ПЭТ, і наадварот.

Па-трэцяе, адсутнасць у людзей звычкі ці абавязку выносіць смецце ў завязаных пакетах. Людзі сыплюць адкіды ў бакі, яны там смярдзяць на сонцы ўлетку і прымярзаюць узімку.

Каб выправіць першае, трэба інвестыцыі. Яны могуць прыйсці ад кампаній, зацікаўленых у перапрацоўцы адкідаў.

Каб выправіць другое, патрэбныя якасныя, чыстыя, добра абазначаныя смеццевыя бакі і кампаніі сацыяльнай рэкламы.

Каб выправіць трэцяе, бадай, не абысціся без штрафаў і кантролю. Хоць мала хто іх любіць, але славутая «нямецкая акуратнасць» імі была выхаваная.

У кожным разе, праблема сапраўды існуе. Каб у тым пераканацца, досыць падысці да смеццевага бака ў вашым двары.

**Мікола Бугай**

## Кліматолагі прагназуюць цёплую вясну

Вёсны 2014 і 2015 гадоў былі цёплымі. А вясна 2016-га можа быць яшчэ цяплейшай.

Як прагназуюць метэаролагі, у сакавіку сярэдняя тэмпература будзе на 2—3°С вышэйшай за норму. Красавік і май таксама будуць цяплейшыя, але ўсяго на 1°.

Як мяркуецца, першая хваля цяпла прыйдзе ў Беларусь 8—9 сакавіка — да +10—13 градусаў. Яшчэ адна хваля цяпла чакаецца каля 19—20 сакавіка.

**СГ**

# Тэлевядучы Дзяніс Кур’ян на адпачынку ў Тайландзе зрабіў прыгожыя фота сваёй жонкі

Дзяніс са сваёй жонкай Юліяй паляцелі на востраў Пхукет, які адначасова з'яўляецца адной з паўднёвых правінцый Тайланда. Сам вядучы актыўна выкладае фоткі з адпачынку ў сваім інстаграме.



Дзяніс не саромеецца выкладаць фота сваёй жонкі эратычнага характару. Дзяніс і Юля ужо каля сямі год знаходзяцца ў шлюбе і маюць дачку і сына.

Юлія Кур'ян (дзявочае прозвішча Касцюкевіч) нарадзілася ў горадзе Масты Гродненскай вобласці. Але сябе лічыць случчанкай, бо менавіта там яе бацькі пабудавалі дом. Юлія працавала мадэллю ў Сашы Варламава. На сёння ёй 32 гады.



На адпачынку сям'я актыўна займаецца ёгай, каштуе экзатычныя стравы і шмат часу бавіць на моры.



## Беларускі баксёр падпісаў кантракт з найлепшым сусветным менеджарам

**Сяргей Рабчанка будзе працаваць з Элам Хэйманам.**



Хэйман — чалавек, які ўжо тры гады запар прызнаецца менеджарам года. Напрыклад, менавіта ён займаецца арганізацыяй баёў Флойда Мэйуэзера — непераможнага амерыканскага чэмпіёна ў паўсярэднім вазе, які валодае паясамі па версіях WBC, WBA, WBO і ўзначальвае ўсе сусветныя рэйтынгі.

Ці мог такі чалавек, як Хэйман, узяцца за абы-каго? Мяркуйце самі: беларус Сяргей Рабчанка сёння мае 27 перамог на прафесійным рынгу і адну паразу. Ён — чэмпіён Еўропы сярод прафесіяналаў! І ў аўтарытэтным рэйтынгу WBA займае 10-ю пазіцыю ў першай сярэдняй вазе (да 69,8 кг).

Пачынаў кар'еру Рабчанка ў мінскім баксёрскім клубе *Golden Gloves* («Залатыя пальчаткі») пад кіраўніцтвам трэнера Сяргея Пыталева — там Рабчанка займаўся 15 гадоў перад тым як пераехаць трэніравацца ў Брытанію да легендарнага Рыкі Хэтана.

У аматарскім боксе Рабчанка правёў 228 баёў, з якіх перамог у 217!

Цяпер выглядае, што пасля падпісання кантракта з Элам Хэйманам беларус паедзе жыць і трэніравацца ў ЗША.

Сяргей ужо сказаў сайту *vringe.com*, што ён «пераб'е ўсіх найлепшых амерыканцаў».

На сёння Рабчанка — найбольш перспектыўны беларускі баксёр-прафесіянал. Але недалёка ад яго адышоў і яшчэ адзін выхаванец клуба *Golden Gloves* Кірыл Рэліх, які сёння займае 5 месца ў рэйтынгу WBO у катэгорыі да 63,5 кг. Кірыл маладзейшы за Сяргея на 4 гады, таму таксама мае добрыя шанцы стаць сусветнай зоркай.

Дарэчы, трэнер клуба *Golden Gloves* Сяргей Пыталеў падрыхтаваў цэлае сузор'е вядомых беларускіх баксёраў. Сярод іх чатыры майстры спорту міжнароднага класа, адзін заслужаны майстар і 20 майстроў спорту.

**Арцём Гарбацэвіч**

## Ларыса Грыбалёва нарадзіла трэцяе дзіця — 29 лютага

У 42-гадовай спявачкі ўжо ёсць 12-гадовая дачка і 10-гадовы сын.



«Я так хацела дацягнуць да вясны, але не атрымалася, — расказала спявачка «Камсамолцы». — Як назавём — пакуль цалкам без паняцця. Трэба ў мужа спытаць, мы ж, як звычайна, да апошняга цягнем. ...Гэта ж толькі мне магло так пашчасціць — нарадзіць у дзень, які бывае раз на чатыры гады!»

Грыбалёва спадзяецца, што даглядаць немаўля ёй будзе дапамагаць старэйшая дачка Аліса: «Яна вельмі любіць маленькіх дзяцей. У мужа ёсць сястра, а ў яе двое дзяцей. Аліса сама можа іх пакласці спаць, кніжкі чытае. І нават калі яны засынаюць, дачытвае казку да канца. Бо, як Аліса нас запэўнівае, у сне дзеці таксама чуюць. Спадзяюся, у мяне будзе нянька хоць бы на першы час».

На пытанне, ці трывожыла яе тое, што цяжарнасць досыць позняя, спявачка адказала, што больш перажывала яе мама: «У гады яе маладосці ў 25 ужо было замуж позна — а тут дачка ў 42 нараджаць сабралася. Мама сказала: пара намі, старымі, займацца, а не нараджаць. Праўда, яна выдатна сябе адчувае ў свае 70. Нядаўна памыла ўсе вокны ў маім доме! Яе бессэнсоўна спыняць: калі ўжо вырашыла ўскапаць агарод, то яна гэта зробіць. І вельмі задаволеная сабой, кайфуе ад працы. Цяпер мы жывём разам, і гэта для мяне вялікая дапамога».

**Чытайце kp.by**

## Павел Ляхновіч атрымаў літаратурную прэмію — пуд мёду

Заснавальнік «мядовай» літаратурнай прэміі, пружанскі пчаляр ды літаратар **Мікола Папека,** ушаноўвае пісьменнікаў Берасцейшчыны пудам мёду ўжо 14 гадоў.



Сёлетняя імпрэза адбылася ва ўніяцкай парафіі Брэста, дзе сабраліся літаратары з розных гарадоў рэгіёна.

Імпрэзу вёў берасцейскі паэт Мікола Пракаповіч.

**Кіно**

# Холмс і маразм

Містар Холмс
**Рэжысёр:** Біл Кондан
**У ролях:** Іэн МакКелен, Лора Ліні, Майла Паркер, Хіраюкі Санада, Хэці Морахэн, Патрык Кенэдзі, Роджар Алам
Вялікабрытанія, ЗША, 103 хв.
**Адзнака:** 8

Самы знакаміты ў свеце дэтэктыў даўно адышоў ад спраў і праводзіць старасць у ціхай вёсцы ў клопаце пра ўласны пчальнік. У гаспадарцы яму дапамагаюць місіс Манро і яе сын Роджар. Памяць усё часцей здраджвае Холмсу, і ён шукае лекі ад сваёй хваробы. Аднак яму не дае спакою адзін успамін пра адну жанчыну і яе таямніцы, што засталіся нераскрытымі. Холмс вырашае знайсці разгадку справы, якая прымусіла яго сысці ў адстаўку больш як 30 гадоў таму.

Фільм зняты паводле рамана амерыканскага пісьменніка Мітча Каліна «Пчолы містара Холмса» (2005). Рэжысёрам стужкі стаў Біл Кондан, які атрымаў «Оскар»-1999 за фільм «Багі і пачвары» (найлепшы адаптаваны сцэнар), што таксама ўздымаў тэму старасці.

Галоўную ролю выканаў 76-гадовы брытанец сэр Іэн МакКелен, вядомы па ролях чараўнікоў Дамблдора з франшызы пра Гары Потэра і Гендальфа з «Уладара пярсцёкаў» і «Хобіта», а таксама Магнета з «Людзей Ікс». Ён мае званне рыцара і камандора ордэна Брытанскай Імперыі.

МакКелен расказаў, што яму было нескладана ўявіць сабе Шэрлака Холмса ў жыцці, таму што падзеі фільма ў асноўным разгортваюцца ў гады яго ўласнага жыцця. Ён нават мог бы сустрэцца з дэтэктывам у 1947 (год, у які адбываюцца падзеі фільма), калі быў яшчэ, як Роджар, дзіцём. У фільме Холмсу 93 гады.

Рыхтуючыся да здымак, Іэн МакКелен наведваў курсы пчалярства. У працэсе здымак яго не ўкусіла ніводная пчала.




Вядомы дэтэктыў паказаны ў стужцы больш жывым і сапраўдным чалавекам, чым у арыгінальных творах і іх экранізацыях. Гэта нямоглы стары, якому адчайна патрэбная дапамога ў побыце і які не хоча прымаць сваю хваробу. Ён змагаецца за свой светлы розум з апошніх сіл. Аўтары фільма ствралі некананічны вобраз героя.

Стужка была высока ацэненая кінакрытыкамі.

**Настасся Уласава**

# Дашкевіч асудзіў Парфянкова і Лобава: Лепш бы вы, хлопцы, па-беларуску пачалі размаўляць

«Расправа з аддзяленнямі банкаў у Кіеве прайшла б па-за нашаю ўвагаю, каб не асобы некаторых удзельнікаў зачысткі — беларусаў, — напісаў гістарычны лідар Маладога Фронту Зміцер Дашкевіч у сваім артыкуле на сайце Mfront.net. — Кожная нацыя ў розныя перыяды сваёй гісторыі станавілася перад неабходнасцю браца ці за камяні, ці за аўтаматы. Аднак ці гэта першасна, каб прыйшло доўгачаканае збаўленне, каб адбыліся перамены, дзеля якіх многія дзясяцігоддзямі ахвяруюцца?



Любыя перамены і любое адраджэнне трэба пачынаць з сябе. І таму было б лагічней, каб Парфянкоў з Лобавым перайшлі на беларускую ці нават украінскую мову — і такім чынам пачалі б адраджэнне нацыі кожны ў сваёй галаве.

Аж не, такога не назіраецца, бо вывучыць родную мову — гэта цяжкая і карпатлівая праца, праз якую ты штодня і па кроплі выціскаеш з сябе савецкага чалавека. Прасцей узяць камяні і змагацца з савецкімі чалавекамі, павыбіваўшы ім еўрапейскія шыбы?» — пытаецца Дашкевіч.

Нагадаем, што ў інтэрнэце з'явілася відэа, на якім зафіксавана, як беларус Васіль Парфянкоў удзельнічае ў разгроме аддзялення «Альфа-банка» ў Кіеве.

Парфянкоў пераехаў ва Украіну і ўступіў там у добраахвотніцкі корпус АУН («Арганізацыя ўкраінскіх нацыяналістаў»). Нядаўна ён атрымаў дазвол на жыхарства ва Украіне.

Групоўка АУН публічна абвясціла ў Кіеве «акцыю па знішчэнні расійскага бізнэсу».

На мінулых выхадных байцы атрада «пабілі» офіс Рыната Ахметава, разгромілі офіс расійскага «Альфа-банка» і пабілі вітрыны ў офісе «Сбербанка России».

Прэзідэнт Украіны Пятро Парашэнка назваў напады на офісы правакацыяй.

Васіль Парфянкоў — першы, каго затрымалі ў сувязі з пагромамі.

Яго абвінавачваюць па артыкуле 296 ч.2 Крымінальнага кодэкса Украіны «Хуліганства». Паводле гэтага артыкула, Парфянкову можа пагражаць да чатырох гадоў зняволення.

**Водгукі**

# Што сталася з маёй Радзімай!

«Такую гісторыю, як у нас, яшчэ пашукаць трэба»: рэпартаж з вёскі на краі Браслаўскага раёна» (№8).

Дужа цікавы артыкул і дужа засмучае.

Я закончыў Барадзеніцкую школу ў 1961 годзе, маёй настаўніцай матэматыкі была Соф'я Антонаўна. Нізкі, шчыры Вам паклон за педагагічны такт, розум, што не паставілі двойку па алгебры на выпускных экзаменах. Праўда, я рэабілітаваўся потым — маю два аўтарскія пасведчанні за планіметры, прылады для вымярэння плошчы любой формы. А стаў я гуманітарыем-музыкантам, працаваў завучам музычнай школы ў Гомелі.

Яна Антонавіча я памятаю па школе, тады ён вучыўся, у школе, можа, працаваў, але, на жаль, не ў маім класе.

Прозвішча Рыдзіка было мне знаёма з ранняга дзяцінства — так была падпісаная прыгожая карціна алеем, на ёй лясная рэчка і качка з качарам. Гэта быў падарунак ад сябра майму бацьку Гэнрыку, які жыў у Цяцерках за тры км ад Барадзеніч.

Бацька быў кіраўніком беларускага гуртка, мабыць, на гэтай падставе яны і сябравалі.

У нашай хаце быў «штаб» гуртка, бібліятэка. На гарышчы хаты я знайшоў афіцыйную круглую пячатку гуртка і бібліятэчны шамп «Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры. Бібліятэка імя Францішка Скарыны. Гуртоk у Цяцерках».

Круглую пячатку згубіў (малыдурны), а бібліятэчны штамп аддаў настаўніцу Валянціну Іванавічу Рабкевічу.

На жаль, яго рэпрэсавалі і даўно няма ў жывых, вечны спакой.

Яшчэ аддаў «Беларускую граматыку» Тарашкевіча, яшчэ нешта. Нейкія кнігі Валянціну Іванавічу перадаў і Антось Рыдзіка.

Дарэчы, у вёсцы Шаўляны, 3 км ад Барадзенічаў, была беларуская школа, якая пры паляках пратрымалася апошняй (!) у Заходняй Беларусі. (Язэп Найдзюк. «Беларусь учора і сяння»). У гэтай школе вучылася мая мама Францішка Пецюкевіч (Пабяржань). Пра настаўніцу Мар'ю Булыгу нічога не магу знайсці.

Вучні гэтай школы і былі галоўнымі ўдзельнікамі беларускіх пастановак. У школу прыязджалі беларускія паслы ў польскім Сойме Альбін Стаповіч, Фабіян Ярэміч, Барыс Рагуля, Канстанты Юхневіч, а таксама мой дзядзька Мар'ян Пецюкевіч — этнограф, актыўны дзеяч так званай Віленскай пары.

**Мар'ян Пецюкевіч, Гомель**

* * *

Нідэрланды маюць плошчу 41,5 тыс.кв.км, насельніцтва — 16 млн. Віцебская вобл. — 40 тыс. кв.км, насельніцтва — 1,2 млн чал.

Не хачу сказаць, што ў Віцебскай вобласці аналагічна мусіць жыць 16 млн чал., хай бы — 5—6. Пракормяцца!

То ў Беларусі, разам з Мінскам, мільёнаў сорак рэальна мусяць жыць. А такую араву трэба пракарміць!

Нічога страшнага! Работы ўсім бы хапіла, і толькі — для ўнутранага рынку прадуктаў! У кожнай вёсцы — фермерская гаспадарка, малачарні, цяпліцы, сады, бровары, каўбасныя цэхі, пякарні, гасцявыя домікі...

А сам бы «народзец» даўно жыў у катэджах з усімі выгодамі. І ніхто нікуды не з'язджаў бы....

**Юзік Крулеўскі, Глыбокае**

# Быкаў і кадэбіст

і іншыя цікавосткі свежага «Дзеяслова»

Новы «Дзеяслоў» № 1(80)'2016 адкрывае незавершаны твор Васіля Быкава, які перадала ў рэдакцыю ўдава пісьменніка. Гэта, відаць, апошні твор з непублікаванай раней спадчыны народнага пісьменніка. Рукапіс не меў назвы, на першай старонцы была толькі пазнака «89 г.». Герой твора адпачывае на пачатку перабудовы ў элітным санаторыі і сустракае там адстаўнога кадэбіста. Падчас шпацыраў-гутарак перад героем раскручваюцца таемныя спружыны барацьбы «органаў» з «антысавецкай скіраванасцю» і «нацыяналізмам» у пісьменніцкім асяродку. У тым ліку — з самім Быкавым. Рукапіс, на жаль, абрываецца на паўслове.

Таксама ў нумары незалежнага літаратурнага часопіса — прывапесць Уладзіміра Някляева «Лапаціна» пра старадаўняе Крэва. Тут і вядомыя гістарычныя сюжэты пра князёў Міндоўга і Даўмонта, і такое хітраспляценне чалавечых лёсаў, якога хапіла б на вялікі раман.

Следам — іранічная балада Уладзіміра Арлова «Паэтычны фэст у Друскеніках».




Яшчэ ў «Дзяслове» ёсць рэфлексіі Анатоля Бутэвіча, паэма Алега Мінкіна, вершы Віктара Жыбуля і старонкі новай кнігі Сяргея Шапрана.

Пытайце «Дзеяслоў» у кнігарнях і ў незалежных распаўсюднікаў.

**Пытанне — адказ**

Паважаная рэдакцыя!

Звяртаюся да вас з нечаканаю, напэўна, просьбаю. У краязнаўчых пошуках вельмі зацікавіўся асобаю Зянона Антонавіча Ленскага, які, імаверна, быў у 1864 годзе па судзе за ўдзел у «польском мятеже» пазбаўлены правоў шляхецтва, маёмасці і сасланы ў Сібір разам з братам Канстанцінам. Знайсці нешта пра далейшы лёс паўстанца Зянона Ленскага, шляхціца Мінскага павета, герба «Астоя», мне не ўдалося. А ў «НН» часта друкуецца «найлепшы знаўца паўстання Каліноўскага» спадар Васіль Герасімчык...

Можа, ён праясніў бы лёс Ленскага?

З павагаю,

**Сяргей Дычок, Бярозаўка (Гродзенская вобласць)**

Сапраўды, браты Канстанцін (1839—?) і Зянон (1841—1910) Ленскія былі таленавітымі людзьмі. Дзякуючы Зянону Ленскаму фактычна і з'явіўся бярозаўскі шклозавод «Нёман».

Ленскія, герба «Астоя», мелі радавы маёнтак — гэта сёлы Сула, Хатава цяперашняга Стаўбцоўскага раёна.

Больш падрабязна пра ролю Ленскага ў стварэнні шклозавода ў Бярозаўцы пачытайце ў інтэрнэце на сайце pawet.net.

А яшчэ Зянон быў дзядзькам вядомага мастака Канстанціна Ленскага. Увогуле, род быў вельмі багаты і вядомы. Паўстанне яго падкасіла, але ён працягваў даваць таленавітых дзеячаў.

Захавалася пліта на могілках у м. Рубяжэвічы Стаўбцоўскага раёна, дзе Зянон быў пахаваны.

**Васіль Герасімчык**



«НН» з радасцю друкуе ў газеце і на сайце www.nn.by чытацкія лісты, водгукі і меркаванні. З прычыны вялікага аб'ёму пошты мы не можам пацвярджаць атрыманне Вашых лістоў, не можам і вяртаць неапублікаваныя матэрыялы. Рэдакцыя пакідае за сабой права рэдагаваць допісы. Лісты мусяць быць падпісаныя, з пазнакай адраса. Вы можаце дасылаць іх поштай, электроннай поштай ці факсам.

**Наш адрас: а/с 537, 220050 Мінск. e-mail: nn@nn.by. Факс: (017) 284-73-29**

**Дурні**

# Цемра з тэлевізара

Расійскі «Первы канал» анансаваў новае тэлешоу «Чорна-белае». Гэта «спаборніцтва чорных і белых магаў», якое падаецца без усякай іроніі, усур'ёз — як калі б гэта было спаборніцтва гімнастаў ці ветэрынараў.

«Адбор медыумаў праводзіўся па ўсёй краіне — ад Калінінграда да Камчаткі, — гаворыцца ў анонсе. — У Маскву прыехала больш за трыста наймацнейшых экстрасэнсаў. Кожны з іх сам выбраў свой бок — чорны ці белы. ...Выпрабаванне першае. У праграму звярнулася папулярная тэлевядучая Святлана Курыцына. У іх доме здарылася бяда — пасля дваццаці гадоў сумеснага жыцця бацька сышоў з сям'і да жанчыны, якая была ўсе гэтыя гады сяброўкай яе маці. «Наймацнейшы прываарот» — такі дыягназ паставіла вядомая іванаўская вядзьмарка...» І гэтак далей.

На савецкім ТВ былі шарлатаны Кашпіроўскі і Чумак з сеансамі масавага псіхозу, на новым расійскім — «Бітва экстрасэнсаў». Але такога яшчэ не было. Гэтае цемрашальства ідзе на галоўным тэлеканале вялізнай краіны ў нядзелю. І што пра гэта ўсё думае патрыярх Кірыл, дарэчы?

Не сакрэт, што маса людзей верыць у прысушкі, адсушкі і урокі. Яшчэ большая маса сляпа верыць тэлевізару. Колькі народу адкіне ў сярэднявечча пасля такой перадачы?

«Первы канал» акунае спажыўца ў містыку. Прасцей кажучы, дэзарыентуе яго. А можа, так і лепей па сённяшніх цяжкіх часах? Дзе тут разбярэшся, чаму заробак малы, калі вакол цябе — духі, энергіі, калі суседка сурочыла?

**Сяргей Мікулевіч**

**in memoriam**

# Леў Бялевіч



У Пецярбургу памёр Леў Бялевіч. У 1940-х ён уваходзіў у падпольную арганізацыю «Саюз беларускіх патрыётаў». Яе стварыла ў Глыбокім моладзь, якая выступала за незалежнасць Беларусі.

За ўдзел у падполлі Бялевіч правёў каля дзесяці год у ГУЛАГу, але да сівой старасці застаўся патрыётам Беларусі.

«Калі ў паваенны час нас было вельмі мала, то цяпер тысячы юнакоў і дзяўчат смела ідуць пад бел-чырвона-белым сцягам, баронячы волю і незалежнасць нашай краіны. Я веру, перамога будзе на іх баку», — казаў Бялевіч у інтэрв'ю радыё «Свабода» ў 2006 годзе.

Цяпер засталося ў жывых пяцёра сяброў Саюза беларускіх патрыётаў.

**Кастусь Шыталь, Westki.info**

# У Маскве няня хадзіла па горадзе з галавой забітай дзяўчынкі

У расійскай сталіцы адбыўся **жудасны выпадак**. Грамадзянка Узбекістана, якая працавала няняй, забіла 4-гадовую дзяўчынку і адрэзала ёй галаву.



Затым жанчына падпаліла кватэру гаспадароў і пайшла да метро, забраўшы галаву з сабой.

Усё гэтае вар'яцтва пачалося раніцай у панядзелак, 29 лютага. У адным з дамоў па вуліцы Новага Апалчэння пачаўся пажар. Прыехалі ратавальнікі. У кватэры яны знайшлі цела 4-гадовай Насці без галавы.

Праз некалькі гадзін каля станцыі метро «Акцябрскае Поле» на паўночным захадзе Масквы міліцыянты заўважылі апранутую ў чорнае жанчыну. Яны вырашылі праверыць у яе дакументы. У адказ жанчына дастала з торбы дзіцячую галаву і пачала крычаць, што ўзарве сябе.

Відавочцы знялі на відэа, як няня шпацыруе з галавой забітага дзіцяці. Час ад часу яна ўздымае галаву ўверх, выкрыкваючы нейкі маналог. Чуваць дрэнна, але можна разабраць наступнае: «Столькі гадоў вы знішчалі... І вось я... Я смяротніца! Я памру!». Жанчына ходзіць ля ўвахода на станцыю метро. За яе спінай бачна, што міліцыянты стаяць на лесвіцы, якая вядзе ў метро, аднак нічога не прадпрымаюць.

Жанчыну ўсё ж затрымалі. Выбуховых рэчываў у яе не было. Высветлілася, што 39-гадовая Гюльчахра Бабакулава, узбечка, сапраўды працавала няняй у маскоўскай сям'і. Па папярэдняй версіі, яна забіла 4-гадовую Насцю, забрала яе галаву, а кватэру абліла гаручым рэчывам і падпаліла.

Бацька і маці забітай дзяўчынкі распавялі тэлеканалу *LifeNews*, што нанялі на працу Бабакулаву каля года таму. Жанчыну яны лічылі добрым спецыялістам. Пара адзначыла, што няня заўсёды адказна ставілася да сваіх абавязкаў.

Некаторы час таму ў сям'і Гюльчахры пачаўся разлад: яна часта скардзіла сваім працадаўцам на дрэнныя адносіны з мужам.

Па інфармацыі *LifeNews*, на сваім першым допыце Бабакулава сказала, што пайшла на страшны ўчынак менавіта пасля здрады свайго мужа. Праўда, як канкрэтна звязаныя разлад з мужам і забойства дзіцяці, пакуль не паведамляецца.

Па словах крыніц, бацькі малой цяпер знаходзяцца ў цяжкім стане, з імі працуюць спецыялісты псіхалагічнай дапамогі.

Цікава, што журналісты тэлеканала «Дождь», якія прыехалі на месца здарэння пасля затрымання Бабакулавай, адзначылі, што да іх падыходзілі некалькі відавочцаў з прапановай купіць відэа, на якім Бабакулава дастае з торбы галаву дзіцяці. За відэа відавочцы прасілі 5 000 расійскіх рублёў (прыкладна 66 даляраў).

**Улад Швядовіч**

## Двое маладых беларусаў загінулі падчас адпачынку ў Азіі

25 лютага ў ДТЗ у Тайландзе загінула 26-гадовая мінчанка, а 28 лютага ў В'етнаме патануў хлопец, якому таксама было 26 гадоў.

Ноччу 25 лютага на востраве Самуй у Тайландзе дзве дзяўчыны загінулі ў аўтакатастрофе. Машына ўрэзалася ў прыпаркаваную за крутым паваротам спецтэхніку. Адна з іх — 26-гадовая мінчанка Мая Буйніцкая. Яе родныя цяпер праз консулаў збіраюць усе неабходныя дакументы для транспартавання цела на радзіму.

У машыне разам з беларускай знаходзілася яе сяброўка з Новасібірска (Расія), 23-гадовая Кацярына Пушканава.

А праз некалькі дзён каля в'етнамскага горада Далат загінуў малады беларус Віктар Бандарэнка. Папярэдне ўстаноўлена, што малады чалавек, распрануўшыся, скокнуў у возера ля падножжа вадаспаду Пангур (каля 40—50 км ад горада) прыкладна ў тры гадзіны дня па мясцовым часе ў нядзелю.

Турысты, якія бачылі выпадак, адзначылі, што амаль адразу ён пачаў тануць. Яны спрабавалі дапамагчы, але не змаглі і паведамілі пра здарэнне мясцовым уладам.

У пошуках удзельнічала амаль 100 ратавальнікаў. Яны працягвалі пошукі да дзявятай вечара, пакуль вада ў возеры не стала занадта халоднай. На наступную раніцу пошукі аднавіліся.

Ратавальнікі дасталі цела беларуса Віктара Бандарэнкі з возера назаўтра а 10.30 раніцы па мясцовым часе. Яно дастаўлена ў морг у Хашымін, вырашаецца пытанне аб дастаўцы цела ў Беларусь.

**УШ**

## Ад гружанага лесам цягача адчапіўся прычэп. У яго ўрэзалася на машыне маладая мама





Аварыя адбылася на дарозе Р-6 «Івацэвічы—Пінск—Столін» ля вёскі Вялікая Гаць. Паводле папярэдняй інфармацыі, у кіроўцы аўтамабіля маркі «МАЗ», жыхара Целяханаў, адарваўся прычэп, гружаны лесам.

Прычэп-лесавоз выехаў на паласу сустрэчнага руху і сутыкнуўся з аўтамабілем «Фольксваген Гольф», якім кіравала 23-гадовая жыхарка вёскі Хадакі. У аўтамабілі знаходзілася сямейная пара з двухгадовым дзіцем. У выніку сутыкнення дзіця, жанчына і мужчына з цяжкімі траўмамі дастаўлены ў мясцовую бальніцу.

Ад атрыманых траўмаў жанчына памерла.

**УШ**

## Міліцыянт махляваў з крэдытамі

Упраўленне ўнутраных спраў Магілёўскага аблвыканкама западозрыла супрацоўніка Бялыніцкага РАУС у махлярстве пры атрыманні крэдытаў, што перавышаюць 790 млн рублёў.

Як паведаміў начальнік аддзялення інфармацыі і грамадскіх сувязяў УУС Дзмітрый Ігнатовіч, падазрэнні да міліцыянта з'явіліся пры вывучэнні дэкларацый аб даходах і маёмасці супрацоўнікаў органаў унутраных спраў вобласці. У прыватнасці, падазрэнне выклікалі сумы крэдытаў, якія ўзяў мужчына.

«Гэты супрацоўнік быў звольнены з органаў унутраных спраў па адмоўных матывах яшчэ да пачатку крымінальнай справы. Ён узяты пад варту», — заявіў начальнік аддзялення інфармацыі і грамадскіх сувязяў.

Расследаванне справы аб махлярстве працягваецца. Пацярпелымі па ёй прызнаныя банкі.

**БелаПАН**

## У Валожыне 26-гадовага мужчыну судзяць за сувязь з 15-гадовай

Яго не ўратаваў той факт, што, зацяжарыўшы, яна стала ягонай жонкай.

Старшы следчы Валожынскага раённага аддзела Следчага камітэта Аксана Гульба 29 лютага прад'явіла абвінавачанне 26-гадоваму жыхару Валожына ў інтымнай блізкасці з 15-гадовай дзяўчынай.

Па дадзеных следства, усё адбывалася добраахвотна. Маладыя людзі сталі жыць разам. У 2016 годзе, калі дзяўчыне споўнілася 16 гадоў і яна была на трэцім месяцы цяжарнасці, закаханыя пажаніліся. Але гэты факт не вызваляе мужчыну ад крымінальнай адказнасці.

Аксана Гульба адзначыла, што на сённяшні дзень у Валожыне расследуюцца яшчэ два такія факты.

**УШ**

### Сціcла

**Знайшлі труп немаўляці**

На сметніку пад Віцебскам знайшлі цела немаўляці. Дзяўчынка пражыла на свеце не больш за суткі. Заведзена крымінальная справа, шукаюць маці.

**Эксгібіцыяніст гуляў па Драздах**

18 лютага ў міліцыю звярнуліся некалькі дзяўчат. Яны расказалі, што невядомы хлопец на вуліцы Рачной, што ў Драздах — элітным квартале Мінска, дэманстраваў геніталіі. Маладога чалавека неўзабаве затрымалі каля інтэрната аднаго са сталічных ВНУ. Высветлілася, што ён родам з Жодзіна, а ў Мінску вучыўся.

**Загінулі ў ДТЗ**

У аварыі пад украінскім Роўнам загінулі дзве беларускі. Падрабязнасці высвятляюцца.

**Забойства ў Пінску**

П'яны 22-гадовы жыхар Пінска забіў аднаго свайго аднагодка і моцна парэзаў другога пасля сваркі ў бары. Падазраванага затрымалі, змясцілі пад варту.

**УШ**

# Памятаеце Курэпіна? Студэнт жыў на 400 тысяч у месяц, а цяпер зарабляе $80 за дзень

Мікіта Курэпін пераехаў у Ізраіль — па маме ён яўрэй. Ён расказаў «Нашай Ніве», як жывецца і вучыцца яму там.

«Выжыванне па Курэпіну. Студэнт БДУ жыве на 400 тысяч у месяц. І жыве!» — гэты артыкул стаў адным з самых папулярных у «НН» у 2012 годзе. Студэнт гістфака жыў на даляр у дзень, еў пустую кашу, але адкладаў 15 даляраў на месяц яшчэ і на адпачынак.

Мама прапаноўвала Мікіту грошы, але ён прынцыпова не браў. Хацеў быць цалкам самастойным.Нагадаю, што Мікіта, хоць нарадзіўся ў Расіі і меў расійскі пашпарт, у Мінску прынцыпова размаўляў толькі па-беларуску і выбраў белмоўную плынь на гістфаку...

У Ізраілі Мікіта па-ранейшаму часам карыстаецца беларускай мовай і сочыць за беларускім жыццём. Паўдзельнічаў у перапісе «Мовы нанова».

...Калі я гляджу на адказы Курэпіна пра лад жыцця ў Ізраілі, мне чарговы раз думаецца: калі ўжо і беларусы ўладкуюць сваю краіну так, як здолелі тое зрабіць яўрэі?




Мікіта Курэпін можа іграць двайніка Дзімы Білана.



Мікіта Курэпін хоць і эміграваў у Ізраіль, але захоўвае эмацыйную повязь з Беларуссю.

**«НН»: Вы з канцамі пераехалі ў Ізраіль? Як апынуліся там?**

**Мікіта Курэпін:** Так, я цяпер пражываю ў Ізраілі. Я габрэй — галахічны (па матчынай лініі), і маю права на рэпатрыяцыю ў Ізраіль. Рэпатрыяцыя для мяне — запланаваны крок. З верасня 2013 года я хадзіў на курсы іўрыта ў Мінску і па іх сканчэнні пераехаў.

**«НН»: Дзе там жывяце? Маеце стыпендыю?**

**МК:** У Ізраіль я рэпатрыяваўся праз праграму МАСА. Яна ідзе для моладзі з габрэйскім паходжаннем, якая жадае паспрабаваць пажыць у Ізраіле, зразумець яго жыццё ўнутры, паездзіць па краіне. Мне аплочваюць жыллё, навучанне і медыцынскую страхоўку, плюс я атрымоўваю каля 320$ на харчаванне і асабістыя патрэбы. Гэтых грошай цалкам хапае, і нават застаюцца.

**«НН»: Што вывучаеце? Якія дадатковыя курсы праходзіце?**

**МК:** Мая праграма складаецца з дзвюх частак. Першыя 5 месяцаў — вывучэнне мовы, і астатнія 5 месяцаў — вывучэнне графічнага дызайну. У вольны час раблю ўхіл на паляпшэнне ведаў па іўрыце і займаюся самавывучэннем арабскай мовы.

**«НН»: Што было самім цяжкім пры «акліматызацыі»?**

**МК:** Як такой «акліматызацыі» у мяне не было, бо людзі ў цэлым тут — з маім наборам характараў. Моўнага бар'еру не існавала, але была праблема ў тым, што ў горадзе, дзе я жыву (Беэр-Шэва), пражывае каля 25% выхадцаў з СССР, і большасць з іх не жадае інтэгравацца. Так склалася, што я жыву ў рускім квартале, і тут ёсць шмат крамаў, рэстарацый і паркаў, дзе выкарыстоўваць толькі расейскую мову. Я іх не наведваю, але той факт сутыкнення з расейкамоўнасцю выклікаў у мяне найбольшыя складанасці. Мне хацелася поўнага пагружэння ў

> **«Выжыванне па Курэпіну. Студэнт БДУ жыве на 400 тысяч у месяц. І жыве!» — гэты артыкул стаў адным з самых папулярных у «НН» у 2012 годзе**



У 2012 звычайным абедам Мікіты былі макарона і грэчка.



«Ізраільскія дзяўчаты адны з самых прыгожых у свеце», — мяркуе Курэпін.

### Бліц

**— Улюбёная страва ў Ізраілі**

— Фалафель.

Але дазволю тут больш «кулінарных уражанняў». Тут неймаверна смачная садавіна. Свежая, духмяная. Ёсць звычныя памаранчы ды клеменціны, але ёсць і таксама і шышкі кактусаў, лічы, кумкваты. Тут вельмі развітая вулічная нацыянальная кухня — фалафельні, швармарні, хумусарні і пякарні шакшуку радуюць мяне на кожным кроку ў горадзе. Вельмі смачнае тут і малочнае, але яно і каштуе адпаведна. Напрыклад, 250 мл малочнага напою каштуе 1,30$. Смачнае ўсё, акрамя… хлеба. Хлеб тут белы, чорны мала дзе прадаецца, я часам сумую па яго водары і смаку… А са шпротаў перайшоў на тунец.

**— Што робіце ў шабат?**

— Сплю і адпачываю.

**— Ці Святая там Зямля?**

— Святая, але не для ўсіх.

**— Самае прыгожае месца Ізраіля — гэта…**

— Стары горад Ерусаліма.

**— Ізраільскія дзяўчаты…**

— Адны з самых прыгожых у свеце.

**— Ізраільская кава…**

— Аказалася, што кава з малаком — гэта не кашэрна.

**— З беларускага вам у Ізраілі найбольш бракуе…**

— Чорнага хлеба.

**— Вы за прызнанне палесцінскай дзяржавы ці супраць?**

— Немагчыма прызнаць, чаго не існуе.

**Фалафель**

шарыкі з нуту (турэцкага гароху) і спецый, якія вараць у алеі.

**Шварма**

або шаурма, можа быць з курыцы, ялавічыны ці індыка. Таксама, як фалафель, бывае, кладуць у ляпёшку-піту, дадаюць шмат прысмакаў і заліваюць хумусам (соусам з нуту) ці тхінай (соусам з кунжуту).

**Шакшука**

памідоры з перцам + яйкі, засмажаныя на патэльні. Вострая і вельмі смачная страва.

іўрыт. Праўда, цяпер я супакоіўся і перастаў заўважаць расейскую мову і цярплю расейскі акцэнт у мове.

**«НН»: Ці шмат там беларусаў тыпу вас?**

**МК:** Мая праграма разлічана на людзей з краін, дзе раней панавала савецкая ўлада. Там ёсць некалькі чалавек з Беларусі, праўда, яны даволі індыферэнтныя. Жыхары ж Беларусі, што пераехалі ў 90-я, растварыліся ці ў расейскамоўным асяроддзі, ці ў іўрытамоўным (значна менш), дзеці іх размаўляюць выключна на іўрыце, і расейская мова для іх — гэта мова для размовы з бацькамі. Ведаю, што ў Ізраілі ёсць некалькі беларускамоўных спадароў, але іх становіцца ўсё менш і менш, бо ўсюды пануе іўрыт.

**«НН»: Як жывецца на тыя грошы, што маеце? Колькі траціце за месяц, колькі ўдаецца адкладаць?**

**МК:** Мая стыпендыя складае недзе каля 320$. На жыццё разыходзіцца недзе 175—200$. Заўжды ёсць магчымасць падзарабіць. Не буду распавядаць, колькі атрымоўваю за месяц, але за дзень у сярэднім можна зарабіць недзе 80$. Гэта сума невялічкая для Ізраіля, бо тут сярэдні заробак 2700$, а мінімалка — 1300$, але падпрацоўка нелегальная, а грамадзянства ўдзельнікі праграмы атрымоўваюць толькі па яе сканчэнні. У маім выпадку гэта недзе ў чэрвені.

**«НН»: А як у Вас з медыцынскім абслугоўваннем?**

**МК:** У мяне бясплатная медыцынская страхоўка, яна таксама распаўсюджваецца на рэпатрыянтаў, якія жывуць першы год у Ізраілі. Медыцынская сістэма падзяляецца на 4 бальнічныя касы (сеткі бальніц). Абслугоўванне ў іх высокай якасці, вельмі сучаснае (асабліва, калі параўноўваць з Беларуссю). Медыкаменты пры гэтым выдаюцца таксама бясплатна. Цікавы факцік: часам у іх складзе ёсць канабіс (у Ізраілі ёсць медыцынскі легалайз), і таму ў мяне была не так даўно праблема з правозам наркатычных сродкаў на ўкраінскай мытні. Калі прыехаў, праверылі медыкаменты, якія аказаліся наркатычнымі псіхатропамі. Вымушаны быў заплаціць штраф памерам 75$. На зваротным шляху, дарэчы, украінцам не спадабаўся мой расейскі пашпарт, абвінавацілі ў сепаратызме (цікава, што я шмат разоў ахвяраваў на антытэрарыстычную аперацыю), прыйшлося і там заплаціць 20$, каб атрымаць дазвол на 36-гадзінны транзіт па краіне.

**«НН»: Вакол Беэр-Шэвы не страляюць?**

**МК:** Я жыву за 30 кіламетраў ад сектару Газа. Арабы пакуль слаба абстрэльваюць Ізраіль, да населеных пунктаў яшчэ нічога не даляцела. Звычайна, калі што выпускаюць, яно ўзрываецца недзе ў самім сектары. Каля нас цяпер канцэнтруюць ваенныя базы, таму жыццё горада ў вялікай бяспецы на выпадак пачатку антытэрарыстычнай аперацыі.

**«НН»: Што цікавага ў арганізацыі жыцця беларусам варта запазычыць у ізраільцян?**

**МК:** Я б сказаў, што запазычыць трэба найперш стаўленне да свету. Ізраільцяне — шчаслівыя людзі, яны ўвесь час усміхаюцца. Ізраільцянам уласліва дапамагаць усім пры кожным выпадку, нават калі гэта і не трэба. Ізраільцяне размаўляюць гучней (я таксама) і шмат, беларусы ж вельмі маўклівыя. А яшчэ ізраільцяне вельмі непасрэдныя, любяць даваць парады. Сярод беларусаў даваць незнаёмым жыццёвыя парады не прынята, а шчырасць пры размовах з незнаёмымі мне ўвогуле ніколі не сустракалася. У той жа час ізраільцяне таксама вельмі паважаюць чужую свабоду і нават асабістую прастору. Праз гэта тут у крамах вялікія чэргі, бо людзі не спяшаюцца, і ўсё ідзе даволі павольна і без канфліктаў. З той жа сферы — талерантнасць і неўмяшанне ў асабістае жыццё. У беларусаў жа, мне здаецца, ёсць праблема з разуменнем, што такое свабода і як ёй правільна карыстацца.

**«НН»: А што арабы? Праблем з імі не было?**

**МК:** Вакол нас шмат бедуінскіх пасяленняў. Адзін раз быў тэракт. У цэлым жа арабы паводзяць сябе даволі спакойна, некаторыя з іх працуюць у крамах. У мяне нават адной чы быў доктар-араб, які абслугоўваў мяне вельмі якасна і пажадаў заўжды заставацца здаровым.

**«НН»: Карацей, з людзьмі не канфліктавалі…**

**МК:** З людзьмі — не. Былі канфлікты з аўтаматамі. На вакзалах, станцыях амаль не бывае касаў. Усюды стаяць аўтаматы. Мне з імі было складана пасябраваць. Але навучыўся. Цяпер часта дапамагаю старому пакаленню пасябраваць з імі.

**«НН»: Ці дапускаеце Вы магчымасць вярнуцца ў Беларусь?**

**МК:** Не дапускаю. У Беларусі мяне нічога не трымае. Да таго ж у Беларусі вялікі побытавы антысемітызм, і мне гэта было зусім не даспадобы.

**«НН»: Як вы ўспамінаеце тыя дні, калі ў Мінску жылі на 1 даляр у дзень? Што Вам найбольш успамінаецца з тых дзён?**

**МК:** Цяпер, калі ў мяне ў лядоўні стабільна 3—4 гатункі сыру, нават не ведаю, як я мог пражыць на гэтыя грошы. Узгадваю з жахам і адначасова з неразуменнем і настальгіяй. Узгадваецца, як бессэнсоўна галадаў у той час.

**Гутарыў Андрэй Дынько**



Мікіта жыве ў Беэр-Шэве — горадзе сярод пустыні.



Дзяды ваявалі… Сярод помнікаў у Беэр-Шэве — вось гэты самалёт.

# Паплечнік Каліноўскага, сябар Маркса: нязломны Валерый Урублеўскі

Піша гісторык **Васіль Герасімчык.**

Зіма 1864-га. Мяжа Расійскай і Аўстрыйскай Імперый. У расійскі вайсковы лагер прыбывае карэта шляхціца Ксаверыя Складоўскага. Той адразу ж кіруецца да начальніка па дазвол выехаць за мяжу для яго дачкі Баляславы. Разам з дзяўчынай у карэце — эканомка. Пакуль бацька дабіваўся дазволу, два маладыя афіцэры падышлі да карэты і пачалі заляцацца да панны Баляславы. Выгляд эканомкі падаўся падазроным аднаму з іх. Расеец ужо збіраўся абшукваць экіпаж, як пабачыў з'явіўся старшы афіцэр на кані і даў двум залётнікам нейкі неадкладны загад. Затым наблізіўся да карэты і ціха прамовіў: «Прывядзіце ў парадак своё ліцо», пришпорыў каня і паскакаў даганяць падначаленых. Напалоханая Складоўская зірнула на суседку і ўбачыла, як па твары тае струменьчыкамі сцякае кроў. «Эканомкай» быў пераапрануты ў жаночае адзенне Валерый Урублеўскі — герой паўстання Каліноўскага.

### «Калі трэба ісці драцца…»

На ўспамін пра родны Жалудок яму назаўсёды засталіся аповеды, пачутыя ціхімі зімовымі вечарамі ад бацькі Антона — пра прыгоды ляснічага ў векавых пушчах, сярод якіх вужакаю выгінаецца Нёман. Бацька любіў лес усёй душой і не пакідаў сваіх вандровак, нават калі стаў скарбнікам у маёнтку Тызенгаўза. Гэтую няўрымслівую цягу ён перадаў і сыну Валерыяну Антонію, народжанаму 27 снежня 1836 года.

Калі бацькі не стала, сям'я ўдавы Разаліі Урублеўскай, уладальніцы маёнтка Явар на Слонімшчыне, перабіраецца ў Вільню да брата мужа — Яўстахія. Ён стаў для васьмігадовага Валерыя другім бацькам, і менавіта ад яго хлапчук пачуў новыя гісторыі — пра вандроўкі дзядзькі, пераапранутага ў простага селяніна, па вёсках, пачуў песні на «народнай гаворцы», у якіх столькі роспачы і тугі, але ж адначасова і надзеі. Ці не сам Валерый, памятаючы тыя спевы, склаў песню, якая гучала ў паўстанцкіх лагерах у 1863-м:

Ах ты, мая чарнабрыва,
Будзь здарова і шчаслiва!
Люблю цябе, любіць буду
І ніколі не забуду!
Ой, у хаце не астацца,
Калі трэба ісці драцца…
На ворага косы маем,
Загуляем, як здужаем…
Эх ты, мая чарнабрыва,
Будзь здарова і шчаслiва!

У 1848, калі Еўропа жыла прадчуваннем «вясны народаў», абшары колішняга Вялікага Княства Літоўскага, а цяпер заходнія губерні Расійскай Імперыі, былі знясіленыя. Найлепшых сыноў края, аб'ядналых таемнымі арганізацыямі, няспынная чарадой выпраўлялі на сібірскую катаргу або ў рэкруты. Па Вільні хадзілі чуткі пра «Братні саюз» Далеўскіх і пераказвалася гісторыя пра грамадзянскае пакаранне смерцю трох удзельнікаў таемнага таварыства: «злачынцаў» падвялі да ганебных слупоў, над іх галовамі зламалі шпагі ў знак пазбаўлення шляхецкіх правоў і выслалі ў Сібір. Адным з іх быў Апалін Гафмайстар. Малы Урублеўскі ведаў гэтае імя ад дзядзькі, і ніколі б не паверыў, што яго дзіцячы кумір пасля вяртання з ссылкі будзе яго паплечнікам па Гродзенскай рэвалюцыйнай арганізацыі.

Не абмінуў арышт і самога дзядзьку Яўстаха. У 1849 за ім на віленскую кватэру прыйшлі жандары. Дзядзьку звінавацілі ў спробе стварыць таемную арганізацыю для дапамогі Венгерскаму паўстанню, на задушэнне якога ў Аўстрыйскую Імперыю паходам выступілі расійскія войскі. Студэнту Харкаўскага ўніверсітэта, звязанаму з Кірыла-Мяфодзіеўскім таварыствам, далі 8 гадоў катаргі ў Сібіры.

У Вільні Валерый Урублеўскі вучыўся ў гімназіі (дваранскім інстытуце) адначасова з многімі будучымі паўстанцамі: Цітусам Далеўскім і яго братам Канстанцінам, Зыгмунтам Мінейкам, Францішкам Багушэвічам... У 1854 разам з братам Станіславам Валерый паступае ў Пецярбургскі лясны інстытут. Навукі яму даваліся цяжка, за выключэннем тапаграфіі, але ў фехтаванні і стральбе ён не меў роўных.

Вечары ж юнак бавіць у нелегальных студэнцкіх і афіцэрскіх гуртках, якія з'яўляюцца па ўсёй сталіцы Расійскай Імперыі. Адным з іх кіравалі Зыгмунт Серакоўскі і Яраслаў Дамброўскі. Там у 1857 Урублеўскі і знаёміцца з братамі Каліноўскімі — Віктарам і Кастусём.

### «Рэвалюцыйны радыкал па крыві»

Пасля заканчэння інстытута Урублеўскі атрымлівае прызначэнне інспектарам у наваствораную пісарска-егерскую вучэльню ў Саколцы, непадалёк ад Белавежскай пушчы. Выхаваны на ідэях сацыяльнай роўнасці і справядлівасці, Валерый становіцца аўтарытэтам для тутэйшых навучэнцаў, сыноў дзяржаўных (непрыгонных) сялян з Беларусі і Літвы, якія рыхтуюцца стаць ляснымі аб'ездчыкамі і егерамі. «Я дэмакрат па паняццях, па духу, рэвалюцыйны радыкал па крыві, па сваім мінулым, па дзейнасці яшчэ да паўстання», — казаў ён пра сябе пасля.

Валерый на перыферыі імперыі знайшоў прыдатную глебу для рэвалюцыйнай дзейнасці, маючы магчымасць наведваць недалёкія Гродна, Беласток, Бераставіцу, і нават Вільню, цэнтр будучай таемнай арганізацыі. Адным з месцаў яе збору стала кватэра дзядзькі Яўстахія, што вярнуўся з Сібіры пасля царскай амністыі. Там збіралася багата людзей — ад паэта Уладзіслава Сыракомлі да Серакоўскага з Каліноўскім.

Урублеўскі меў шанцы зрабіць кар'еру ў імперыі. Усё ішло да гэтага. І атрымanne ў кастрычніку 1861 чарговага вайсковага чына — падпаручнік, і, са студзеня 1862, пасада загадчыка Сакольскай ляснай школы. Гэта ў той час, калі ў павеце актыўна разыходзіцца «Мужыцкая праўда», сярод аўтараў якой, разам з Кастусём Каліноўскім і Феліксам Ражанскім, быў і Урублеўскі. Пры канцы 1862 следчая камісія ў Адэльску, занепакоеная маштабамі пашырэння «Мужыцкай праўды» сярод падляшскіх сялян, высветліла, што да газеты мае дачыненне фельчар падначаленага Урублеўскаму вучылішча Сянкевіч, і запатрабавала неадкладна накіраваць яго для тлумачэння. Зразумела, што Сянкевіча яны не дачакаліся.

### «За падтрымку беларускай народнасці»

У ноч на 22 студзеня 1863 на тэрыторыі Каралеўства Польскага, без узгаднення з Вільняй, пачалося паўстанне. Урублеўскі, які меў мандат вайсковага начальніка Гродзенскай губерні, чакае загаду Каліноўскага, кіраўніка паўстанцкага Часовага ўрада Літвы і Беларусі. Ён застаецца верным свайму сябру нават тады, калі «белыя» на чале з Якубам Гейштарам здзясняюць пераварот, напалоханыя «ліцвінскім сепаратызмам» і магчымасцю перарастання барацьбы за аднаўленне Рэчы Паспалітай ў сацыяльную рэвалюцыю. «Валерый сярод тагачасных патрыётаў прадстаўляў кірунак радыкальна-дэмакратычны і «краёвы», бо выступаў за падтрымку беларускай народнасці», — успамінаў пасля стрыечны брат Урублеўскага, сын дзядзькі Яўстахія.

Працяг на старонцы 14.

# Паплечнік Каліноўскага, сябар Маркса: нязломны Валерый Урублеўскі

Працяг са старонкі 13.

На месца вайсковага кіраўніка Гродзенскім ваяводствам «белыя» дасылаюць у Беласток палкоўніка Ануфрыя Духінскага, эміграната, удзельніка паўстання 1830—1831, якога самі паўстанцы характарызавалі як «поўную няздатнасць». Пры ім кіраўніком генеральнага штаба становіцца Урублеўскі, які разам з Каліноўскім і іншымі «чырвонымі» вырашыў пайсці на кампраміс — у імя вышэйшай мэты. І 29 красавіка паўстанцы церпяць першае цяжкае паражэнне ў бітве пад Валілкамі ў Сакольскай пушчы, якое, адзначаў Каліноўскі, «дрэнна падзейнічала на вакольнае насельніцтва».

Пасля бітвы расійскі генерал Манюкін паведамляў у Вільню, што Урублеўскі забіты. Але праз некалькі тыдняў ён паўстаў, быццам птушка-фенікс, у баі над ракой Сцерцеж у Ружанскай пушчы.

Калі ў першыя ж хвіліны рускія войскі адрэзалі Духінскага ад падначаленага яму атрада, Урублеўскі тры разы сам падымаў у атаку касінераў, каб урэшце выратаваць гора-камандуючага. Паўстанцы адступілі ў поўным парадку, падабраўшы параненых, і ў хуткім часе ўзялі ўдзел у бітве пад Мілавідамі.

### Калінавы цвет

Адтуль атрад Урублеўскага-Духінскага скіраваўся залечваць раны ва ўрочышча Вялікі Кут. А тым часам выдзелены з яго складу конны атрад Казіміра Кабылінскага захапіў Ружаны, абяззброіўшы царскую вайсковую каманду. Але падышло падмацаванне, рускія пераследавалі Кабылінскага аж да лагера ў Вялікім Куце. Цяжкі бой. Перамога, пасля якой паўстанцы забралі ў забітых рускіх салдатаў 29 дальнабойных штуцараў. Такая зброя была марай паўстанца — звычайна дрэнна ўзброенага і знясіленага доўгімі маршамі па лясным гушчары.

Увечары паўстанцы сталі ў шэраг. Стомленыя, у перапэцканай падрапанай вопратцы, худыя постаці, са шматлікімі драпінамі ад ляснога вецця на тварах. Наўкол адцвітала каліна. Менавіта яе галінкі ў руках трымаў камандзір, які заўсёды быў першы ў завірусе боя — Валер Урублеўскі. Без адзінага слова ён падыходзіў да паўстанцаў, якія найлепш паказалі сябе ў баі, і пакідаў у іх на адкрытых далонях галінкі каліны, усыпаныя беласнежнымі кветкамі.



Не паспеўшы адпачыць, паўстанцы рушылі ў Белавежскую пушчу. Старажытны лес стаў надзейным іх прытулкам. Паўстанец Арамовіч успамінаў: «Адзіным правадніком у маршах па глухіх нетрах быў шэф Урублеўскі з планам лясмічага, дзе былі адзначаны аддзелы, прасекі і іх нумары».

Многія паўстанцы не вытрымлівалі цяжкіх умоў. Падаў у адстаўку ў сярэдзіне жніўня і знясілены паходамі Духінскі. Цяпер афіцыйна камандуючым усімі паўстанцкімі атрадамі Гродзеншчыны стаў Валерый Урублеўскі. Загад аб яго прызначэнні падпісаў Каліноўскі, што пасля арышту Гейштара ўзначаліў Віленскі паўстанцкі цэнтр. Каліноўскі адзначаў, што Духінскі сваім учынкам зрабіў «вялікую ласку».

Урублеўскі абірае новую тактыку барацьбы: фармуе атрады па 20—30 чалавек і рассылае ў розныя бакі чытаць паўстанцкі маніфест — па-беларуску. У Ваўкавыскі павет едуць «Янка з-пад Гродна» і «Юзюк з Беластока», у Шэрашаў — «Марэль», у Белавежскую пушчу — «Галабурда».

Тым часам на Гродзеншчыну перакінулі дадатковыя царскія войскі. Каб пазбегнуць атачэння, Урублеўскі са сваім атрадам перабіраецца праз Свіслацкую і Белавежскую ў Пружанскую пушчу — ва ўрочышча Туроса. Там ён дзеліць атрад на групы па 10—30 чалавек і распускае ў розныя кірункі. Сам застаецца з 40 паўстанцамі.

### Засада кубанскіх казакоў

Зімаваць паўстанцы з Беларусі і Літвы сышлі на тэрыторыю Польскага Каралеўства. Гэта была ідэя Урублеўскага. Іх цэнтрам становіцца Ліпняк на Падляшшы, куды сцягваецца больш за дзве сотні паўстанцаў. Урублеўскі асабіста ўзначальвае конніцу, а пяхоту перадае пад кіраўніцтва афіцэра Багуслава Эйтміновіча. 7 лістапада ён разам з польскім атрадам Крысінскага атрымаў перамогу паміж Расошай і Ламазамі ў Бельскім павеце.

Напрыканцы 1863 атрад Урублеўскага спыняецца ў Малой Букаве пад Люблінам, каб адсвяткаваць надыход новага, 1864-га, года. Але ранкам у вёску ўрываецца атрад драгунаў. Толькі дзякуючы самаахвярнасці Урублеўскага і яго конніцы ўдалося ўратаваць сялянскую пяхоту Эйтміновіча. Але ўжо праз шэсць дзён яна амаль цалкам была пасечана пад Усцімавам, дзе загінуў і сам Эйтміновіч. Урублеўскі помсціць жорстка, здзяйсняе рэйд па тыле ворага, але пад тым жа Усцімавам трапляе ў засаду кубанскіх казакаў. Атрад Урублеўскага разбіты. Ён сам цяжка паранены ў галаву і плячо. Казакі нават палічылі яго мёртвым. Паўстанцкія газеты паведамілі, што Урублеўскі забіты — ужо ў каторы раз. Але ўвечары пасля бою яго цела знайшлі сяляне і ледзь жывога прынеслі ў хату шляхціца Ксаверыя Складоўскага, які дапамог Урублеўскаму выехаць за мяжу — у Парыж.

### Ліхтаршчык і друкар

Эміграцыя, удалечыні ад радзімы, дзе панаваў мураўёўскі тэрор. Адчуванне бяссілля ад немагчымасці нечым ёй дапамагчы. Падводзіла здароўе — параненая левая рука Урублеўскага нерухома звісала ўздоўж цела. Але інвалідам, які жыве за кошт сяброў, ён быць не мог. Валерый уладкоўваецца ліхтаршчыкам, запальвае і тушыць газавыя ліхтары на вуліцах Парыжа, цягаючы на параненым плячы цяжкую драбіну. Ён па-ранейшаму не скардзіўся і адмаўляўся ад дапамогі, зазначаючы, што заўсёды ёсць тыя, каму яна неабходнейшая. Наадварот, Валерый сам намагаецца дапамагаць, і ўзначальвае арганізацыю выхадцаў з тэрыторыі былой Рэчы Паспалітай. Яго погляды становяцца яшчэ больш сацыялістычнымі: «Усё дзеля народа і праз народ».

Урублеўскі самастойна асвойвае цяжкую працу друкара і з 1869 пачынае працаваць у тыпаграфіі «Руж». Але на наступны год захворвае на воспу. Ён, які ўсё жыццё не прымаў ніякіх лекаў, адмаўляецца ад бальніцы. Яго даглядаюць паплечнікі па паўстанні і новыя сябры з тыпаграфіі. Адзін з іх нават заразіўся і памёр.

Падчас франка-прускай вайны Урублеўскі ўступае ў Нацыянальную гвардыю. А калі армія Напалеона III капітулюе і ў Францыі 18 сакавіка 1871 пачынаецца рэвалюцыя («Парыжская камуна»), Урублеўскі атрымлівае званне генерала і ўзначальвае адну з трох рэвалюцыйных армій. Ён абараняў паўднёвую частку сталіцы ад версальцаў — прыхільнікаў урада. На баку камунараў змагаліся 600 паўстанцаў 1863-га — рэшткі знішчанага пакалення. Сярод іх былі Ахіл Банольдзі, былы настаўнік Урублеўскага па Віленскай гімназіі, таленавіты спявак і фатограф; брат расстралянага Цітуса Далеўскага і жонкі павешанага Зыгмунта Серакоўскага — Канстанцін Далеўскі; паўстанцкія афіцэры Ю. Развадоўскі, К. Свідзінскі, В. Ражалоўскі... Многія з іх палеглі на вуліцах Парыжа.

Урублеўскі, як і ў 1863-м, асабіста ўзначальваў атакі працоўных атрадаў. А пасля паразы, завочна асуджаны версальцамі на смерць, застаецца ў Парыжы. Сын Адама Міцкевіча аднойчы сустрэў яго ў адзежы працоўнага ў кавярні «Рэжанс». І ў адказ на прапанову неадкладна выехаць у Лондан пачуў: «Здаецца, там кепскі клімат. А тут, у Парыжы, мне вельмі добра. Мяне атачаюць чэсныя працоўныя, аберагаюць мяне, запрашаюць на абеды, дзе так сардэчна п'юць за маё здароўе».

І ўсё ж пад пагрозай арышту Урублеўскі пакідае Парыж. Пашпарт на імя прусака В. Вальдэмара яму перадаў праз рускага рэвалюцыянера Лаўрова Карл Маркс. Апошні ж склаў пратэкцыю, каб Урублеўскаму, якому пагражала ампутацыя рукі, дазволілі лячыцца ў бальніцы Лонданскага ўніверсітэта.

### «П'ю мікстуру за гібель старога свету»

31 снежня 1871 года Урублеўскі атрымаў запрашэнне сустрэць новы год у сям'і Маркса. Але так і не скарыстаўся гэтым, даслаўшы ў адказ запіску: «Пастаянныя немачы не дазволілі мне правесці апошнія гадзіны гэтага страшнага года ў вашай шаноўнай сям'і, якой я ўдзячны столькімі ўспамінамі пра найлепшыя дні майго жыцця і якая сваёй чароўнасцю нагадвае мне бацькоўскі дом. Адзін у сваім пакоі, я сярдзіта п'ю мікстуру за гібель старога свету і за тое, каб мы, поўныя надзей на будучыню, уступілі ў новы. Пасылаю вам сваё братняе прывітанне».

У 1870-я гады Урублеўскі выношвае ідэю супольнага паўстання на тэрыторыі Расійскай Імперыі. У час руска-турэцкай вайны 1877—1878 гэтым спрабаваў скарыстацца англійскі міністр замежных спраў лорд Дзэраэлі. Ён прапанаваў Урублеўскаму вялізную суму грошай за арганізацыю паўстання ў Польшчы, Літве і Беларусі. Валерый адказаў: «Я не кандацьер і не збіраюся біцца дзеля грошай. Калі б я бачыў, што надышоў час для паўстання, то падрыхтаваў бы яго ў сваім краі, не чакаючы грошай англійскіх капіталістаў».

### Калі не куе, то і не есць

У 1885 французскі ўрад абвяшчае амністыю для ўдзельнікаў камуны. Урублеўскі перабіраецца ў Ніцу. Адзін з сяброў узгадваў: «Урублеўскі, каб як-небудзь пражыць, працаваў у каваля. Аднак пашкоджаная рука балела, і бывалі дні, калі ён нічога не зарабляў, бо не быў у стане падняць молат. Моцны, мабыць, у яго боль, калі ён раcстаецца з молатам, бо калі ён не куе, то і не есць».

На Урублеўскага некалькі разоў рабілі замахі. Адзін з іх у 1894 ледзь не спыніў яго жыццё. Урублеўскі вяртаўся ноччу з працы, калі на яго напалі і моцна збілі. Знайшлі Валерыя сябры з ліку рускіх эмігрантаў, якія паклалі яго на восем месяцаў у бальніцу, дзе яму зрабілі тры аперацыі, каб дастаць раздробленыя кавалкі рэбраў.

Фізічна працаваць Урублеўскі больш не мог, і нарэшце вымушаны быў пагадзіцца на дапамогу — яго ўладкавалі кантраляваць розьнічны продаж у кіёсках газеты «Энтрансіжан». А ў 1901 французскі ўрад прызначыў яму, генералу Камуны, пенсію, пра што не раз хадайнічаў Фрыдрых Энгельс.

Апошнія гады Урублеўскі пражыў ва Урвіле, недалёка ад Парыжа, у земляка і былога камунара Генрыха Гершынскага. Нягледзячы на сталы век, цяжкія раны, Урублеўскі ўвесь час чагосьці чакаў — магчыма, весткі з Бацькаўшчыны. Памёр ён 5 жніўня 1908. У адзіноце. Але суправаджаць яго ў апошні шлях выйшлі тысячы французскіх рабочых. Труну героя паўстання 1863-га, паплечніка Каліноўскага, генерала Камуны, пранеслі вуліцамі Парыжа, на якіх ён мужна змагаўся. І пахавалі на могілках Пер-Лашэз, ля сцяны Камунараў. На магіле яго маецца надпіс: «Гераічнаму сыну Польшчы — народ Парыжа». Але для нас ён назаўсёды застанецца нашым героем, які дзейнічаў поруч з Каліноўскім у імя Беларусі і на карысць нашага народа.



**Васіль Герасімчык**

Гісторык. Нар. у 1987. Скончыў Гродзенскі ўніверсітэт, магістратуру Расійскага дзяржаўнага гуманітарнага ўніверсітэта і Торунскага ўніверсітэта імя Мікалая Каперніка. Пераможца конкурсу «Найлепшы знаўца паўстання Кастуся Каліноўскага».

# Матка

Апавяданне. Піша **Андрэй Горват.**




Я, Іван, нядаўна мужыка пахавала. Шэйсят два гадочкі мне. Вой-вой-вой. Была здурнела мая галава...

От мы на хутары. Там жа няма ні свету, нічога, Іван. Тамака ні свету, нічога няма. Там от адзін Толік е, дурачок такі. Пенсіянер. Яму семдзесят гадоў. Яго жонцы далі пятнаццаць, ці то трынаццаць — парубіла яго. Толік мне кажа:

– Я прыйду ў прымакі.

А я кажу:

– Знаеш што? Я са сваім папагаравала. Піў-піў-піў. Хадзіў-хадзіў, ганяў мяне, ганяў. Я ўжо не хачу.

Мужыка майго атравілі. Далі такой гарэлкі. І ўсё — і кончыўся. Я засталася адна. От.

У мяне падруга Юля, яна таксама адна. Ёй ужо шэйсят пяць. От учора пайшла, пабачыла яе, пагаманіла з ёй. У яе і тэлевізар е, дачка на мясакамбінаце — вялікая такая. Юля два мільёны пенсіі палучае.

– Хопіць, — кажа.

– Ты ўжо ўсё, — кажу, — стары чалавек.

Мае хлопцы, якія са мной вучыліся, усе ў горадзе. Усе ў горадзе. Ніводнага няма тут, у Боруску. Што зробіш... Такі мо лёс. А мне ўжо шэйсят два гады. А Юлі шэйсят пяць. А мужык у яе жыве ў прыстарэлым. Дачка красівая-красівая! Так яна шкадуе матку, навязе ёй поўны халадзільнік. Ну, за грошы. За грошы. А мужык у прыстарэлым жыве. Біўся, Іван, біўся, уся чорная была.

А да мяне мо пяць прыходзіла. Хлопец малады, мо трыццаць гадоў. Дык я кажу:

– Знаеш што, чалавек? Ты мяне будзеш шкадаваць, а ці ты хлопцаў маіх пашкадуеш? Не будзеш. Шуруй і шукай дзеўку ці жанчынку і жыві. Думаеш, гэта так проста? Гэта не так проста.

***

– Алё.

– Галя?

– Не, не Галя.

– А дзе Галя? Пазавіце Галю.

– Куды вы звоніце? Тут няма Галі.

***

Куды вы, кажа, звоніце. Яны звоняць, а трэба ж ведаць нумар тэлефона, куды званіць. А хто яго знае куды. Ну, яны звоняць. Гэта з горада звоняць, ну. У мяне сястра ў горадзе жыве. Дваюрадная. Я туды ездзіла ды кажу:

– Сынок, што мне рабіць? Не хочаш ты мяне глядзець. Пайду ў прыстарэлы.

– Як хочаш, мамо.

– Жаніцца ты не будзеш, — кажу.

Усё. Сорак гадоў. Ён ужо адвык. Быў узяў цыганку. У мяне шэсць кароў было. А дзеўцы, Іван, чатырнаццаць гадоў! Цыганё і е цыганё. Цыганё і е цыганё. І яго абакралі. Усё ўкралі. І газавую пліту — усё. У мяне ўсё было, усё было. Што я папамучылася. Што я папаплакала... А піла! А курыла! А білася! А Божа мой! А цэлы табар! Дзеўцы чатырнаццаць гадоў! Мне спакою не было. І цяпер спакою няма. Увесь пабіты быў. Адзін раз пабіты быў. Другі...

Мой сынок, Іван, ля аўталаўкі ходзіць. Мо бачыў? Дрэнна з галовай яму. От ён і ходзіць. Быў чатыры гады, Іван, у турме ў Мазыры. Там яму пабілі галаву. Ужо нічога не ведае. Нічога. Я ездзіла ў турму. Лепей ты зарабі сваім трудом. А хлопцы якія сядзяць, Іван! Красаўцы! Вой-вой-вой...

От прыходзіць сынок і пачынае піць чэфір. Я кажу:

– Сынок, кінь той чэфір піць. Што ён дае? Нічога ён не дае.

Я ўжо купляла, купляла, Іван. Ды кажу:

– Знаеш што, сынок? Мільёны нада. Гараваць нада. А як жыць? Нада гараваць. От дровы сёння пакалоў — маладзец. А я запаліла, наварыла булёну. Ты прыйшоў, — кажу, — картоплі налупіла. От. Ты і сам умееш. Ты ўжо прывучаны да ўсяго.

У мяне ўся радня багатая, Іван. Уся. А што я магу зрабіць? У дзярэўні якую худобіну гадаваць — а якую гадаваць? Парася якое. Парася карміць трэба. А чым карміць? Божа, Божа... Гаспадара няма. Усё, няма. Божа, Божа. Ну, што ты зробіш? Будам як-небудзь жыць. Мамачка ж, кажу, не вечная...

Мне даюць капейкі. Мільён. Ну, там мільён чатырыста. Прыходжу ў аўталаўку, на дзевак кажу:

– Знаеце што? Дайце, каб хлопец мой быў, як хлопец. Каб не стаяў тут гэты хлопец мой і не прасіў нічога. Я палучаю пенсію, — кажу, — так дайце, дзеўкі, паесці хлопцу.

***

– Алё.

– Галя?

– Тут няма Галі. Куды вы звоніце?

– Пазавіце Галю.

– Гэта Боруск. Куды вы звоніце?

***

– Так яна ўжо другі раз звоніць? Некаму яна звоніць. Гэта жанчына званіла? Гэта, мусіць, з горада. А я вырасла ў Боруску. Малая была, во такая во, дванаццаць гадоў, як матка мая памерла. Я ў дванаццаць гадоў без маткі засталася, Іван. І выгадавалася. Усё жыццё прагаравала ў калхозе. І цяпер яшчэ сын кажа:

– Мамо, пойдам дровы рэзаць.

– А пойдам. А што такое, сынок, я ўмею. І пракалоць умею. Усё ўмею, — кажу. Жыццё прымусіць. У дзярэўні вырасла.

А гарадскія не разумеюць, не ўмеюць. От адзін прыехаў — не ўмее палена пакалоць. Гаворыць:

– Я не панімаю.

От дзве дзеўкі такія красівыя, дык у іх такія во кіпцюры накрашаныя.

– Ну, што вы, дзеўкі, ну, што вы дзеўкі?

– А нічога, — кажуць.

Колькі табе гадоў? Трыццаць тры? Майму сорак. Пад сорак гадоў ужо. Кажа:

– Пойдзеш у прыстарэлы?

– Ай, не, — кажу, — у прыстарэлы не пайду. Там і чыста. Там і кормяць. Там яшчэ і даюць капейку. І ўсё — жыві. Не пайду, — кажу.

Я пайду ў лес. Лісянка е, грыб е, ягада е. Можна от так жыць летам. Былі па дваццаць тысяч. Няхай па дваццаць. Ідзі, не лянуйся, кажу...

Во тут была харошая хатка. Нейкая была таксама з галавою, запаліла. І ўсё. Была такая харошая хатка. Сын у горадзе. Дачка ў горадзе. Не паехалі. А нашто яны паедуць у дзярэўню?

– Нашто яно, — кажа, — мне? Матка ўжо памерла ды і ўсё.

А бацька прыязджае да цябе? Машынаю? Машына е, бачыш ты! Вучаны. І мама граматная? Так? Во як! Бач як. Так табе трыццаць тры гадочкі? Майму сорак. Кажа:

– Мамо, нашто мне тая жонка? Я ўжо адвык.

– Ну, правільна, — кажу, — калі ты ўжо адвык, дык яно табе і не трэба. Гэта я ў дваццаць выйшла.

Маладая была, красівая. Такая кукла была. А ўжо шэйсят два мне. А сын кажа:

– Мамо, ты паможаш дровы складаць?

– Памагу, сынок. Няўжо ж не памагу. Пайду і памагу. Пакалоў дровы, дык я памагу.

От.

***

– Алё.

– Дзе Галя?

– Куды вы звоніце?

– Не дуры мне галаву! Я ведаю, што Галя там. Яна мне гэты нумар дала. Пазаві Галю.

– Гэта Боруск. А вы куды звоніце?

– Галя ў Боруску? Перадай ёй, каб дамоў не вярталася!

***

От не кажа, адкуль яна. А мусіць сказаць, з Калінкавіч яна ці з Мазыра. З Мазыра то не пазвоніш сюды. Ну, нехта ж даў нумар. І зноў, і зноў. Яна яшчэ будзе званіць. Яна, мусіць, не разумее. Пайшла б у справачнае бюро, спытала б:

– Скажыце мне нумар, дзе Галя, мне трэба пазваніць туды.

Нехта ж, мусіць, даў, што яна звоніць. Ды ўжо трэці раз. Галю нейкую шукае. Мо дачка. Хто яе знае.

У мяне ж яшчэ адзін сын е — Іванчык. Робіць па людзях. У калхоз не ходзіць. Усё спасобны. І дровы коле. А людзям жа тут перарабіў! Божа мой, Божа. Паўсяла! От Іванчык у мяне чэфір не п'е. Я малінніку наламала. От які чай розавенькі, харошы.

Што яму жанчына тая? Ён у мяне сам наварыць.

Нехта ж даў нумар, што яна звоніць. То яна матцы не сказала, дзе знаходзіцца. Мо то дачка. Маткам во гора гэтым. Вой-вой-вой. Я ўсё перажыла. То я знаю гэта. Я днямі і начамі не спала. Мой Іванчык быў у Аўцюках, працаваў. Суткі няма, другія няма. Я плачу. Гэта ж Аўцюкі! А Божа! Там дзесяць свіней, дзесяць баранаў, дзесяць кабыл, Іван! Божа, ён раб тамака. Акалечыўся. І руку паламаў, і нагу паламаў тамака. Ох. Што я папагаравала. Сказала:

– Будзь дома. Каб я цябе бачыла. Паможаш якому чалавеку. Цябе тут усе людзі знаюць. Ты тут вырас, выгадаваўся тутака, усе знаюць.

Ён нарадзіўся ў Казахстане. Знаеш, дзе Казахстан, Іван? Гэта ў Карагандзе! Туды нашыя паехалі працаваць. А там папала мо пяць хлопцаў. Тыя, што вярнуліся, пазараблялі па пяцьдзясят мільёнаў. Я кажу так:

– Тут рубель зарабі. Мільён заробіш, хопіць. Хопіць табе мільёна, каб ты купіў хлеба, купіў макаронаў. Хопіць. А гэта ты паедзеш Бог вед куды, а я спаць не буду ды буду плакаць. Ай, мне такое не трэба. Хопіць і тут, — кажу. — Грошы плацяць.

Так гэта жанчына звоніць? Яна шукае, відаць, дачку. То мо дачка. Так нехта ж даў! Я раз таксама пазваніла, дык мне адказалі:

– Жэншчына, вы што не панімаеце? Пазваніце ў справачнае бюро.

Вой, а што то лезе? Коцік? Ко-оцік, во, бач дзе сядзіць! А ў мяне два. Картоплі пакладу. Палезуць на печ і не ядуць. Дык біла сёння, раз пяць біла. Дзе я вам мяса вазьму, кажу. Дзе я вам мяса? А ў цябе была жонка? Так? Вой-вой-вой! Гарадская, не захацела жыць, бачыш ты. Мамачкі! Вой-вой-вой! Ты ж не п'еш, я ведаю. Не п'еш? От бач як! Я кажу:

– Іванчык, піць не трэба.

– Мамо, я не магу.

Вой, пабач, які коцік! Вочкі ты мае, во якое малое, разумны такі.

Яна не будзе адна. Ёй хапае. У горадзе мільёны і мільярды. Вунь адзін таксама прыходзіў з Мазыра, таксама гаворыць:

– Кінула мяне.

Дык я кажу:

– Ты піў — і кінула. А нашто ты п'еш гарэлку?

А што зробіш? У нас колькі тут хлопцаў было! Мільярды! Тут рабілі кароўнікі і жылі ў маёй хаце камандзіровачныя. З Воршы! І ўсе мяне паважалі. З мужчынамі лягчэй гаварыць, чым з жанчынамі. Я з жанчынай не магу. За бацькам і за маткай яна гора і не бачыла. Адкуль яна бачыла гора? Мама выгадавала, бацька.

А ты не п'еш, бач ты! Мой Іванчык таксама ўмее і наварыць, ён такі хлопец. А перажывае за мяне:

– Мамо, каб ты хаця б не прапала.

Я кажу:

– Не прападу. Я паважаю і шкадую людзей.

Свечку запалю. Заране спаць кладземся. У цямніцы сядзець пагана. Свечка і е свечка. Іванчык заране спаць ідзе. Нагаруецца, звечарэ і спаць кладзецца. Куды хадзіць? А нікуды няма хадзіць. Куды ты пойдзеш. А тут і клуб закрыты. Яны ўсе ў хатах тэлевізар уключаць ды сядзяць. Сусед мой адзін жыве. Семдзесят год. Два сыны, Іван, і адмовіліся. От як. От да чаго ты дажыўся, кажу. А ў Юравічах у прыстарэлы дачка здала матку. Матку здала сама! А Іванчык:

– А ты што, — кажа, — мамо?

А я што? А я нічога. Я пакуль хаджу. Буду хадзіць. А хто паможа табе, кажу. А ніхто, кажу.

– Ты ўжо не бяры ніякую. Ты ўмееш наварыць. Жыві адзін, без клопату галава. А то ты паб'еш яе, — кажу, — і ў турму пасадзяць.

Не, наш Лукашэнка маладзец. У нас от гаруй колькі хочаш. Колькі хочаш...

Жыццё не склалася. Не склалася жыццё. Во гэта нага баліць. Папацягалася я па той ферме. Ляжала мо месяц у бальніцы. Божа мой, Божа! І цяпер баліць. Іванчык кажа:

– Мамо, мамо. Божа мой, Божа, журышся.

– Журуся, — кажу. — Дарма, я крэпкая.

А перажывае, бач які!

Засталася адна. От хлопчыкі гэтыя, ды і ўсё. Мо пяць прыходзіла. Яшчэ паб'юць іх. Тут паўсяла прымакоў папрынімалі. Я кажу:

– Хто вас знае.

А што ты тут адзін сядзіш? Радзіва хоць якое трэба. Радзіва якое трэба, каб грала.



**Андрусь Горват**

пісьменнік. Нар. 1983. Вучыўся і працаваў у Мінску, а пасля з'ехаў жыць у дзядаву хату ў вёску Прудок (Калінкавіцкі раён). Гэта ў глушы Палесся, каля мяжы з Украінай, 300 км на поўдзень ад Мінска.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**28 лютага Унутраныя войскі адзначылі «Провады зімы». Некалькі соцень мінчукоў узялі ўдзел у святочных мерапрыемствах на тэрыторыі вайсковай часці 3214. Гледачам былі прадэманстраваныя ваенізаваная эстафета, паказальныя выступы байцоў спецназу, а таксама спецтэхніка і святочныя скульптуры са снегу, зробленыя вайскоўцамі. Усе ахвотныя змаглі пачаставацца гарбатай і блінамі на палявой кухні.**




**92-гадовы прэзідэнт Зімбабве Роберт Мугабэ выдаткаваў на святкаванне свайго дня нараджэння $1 млн. На свяце ў неба былі выпушчаныя 92 паветраныя шары, прамаўляліся вершы і выконваліся песні, у якіх Мугабэ называецца іконай і празорцам. Роберт Мугабэ з’яўляецца прэзідэнтам з 1987 года. За гэты час Зімбабве з адной з самых перспектыўных эканомік Афрыкі ператварылася ў жабрацкую краіну, якая здзіўляе свет гіперінфляцыяй.**




**Старшыня Белтэлерадыёкампаніі Генадзь Давыдзька пры канцы чарговага «Клуба рэдактараў» адкінуў лацкан пінжака, каб прадэманстраваць майку з выявай «Пагоні». Такім чынам, «Пагоня» аказалася ў яго на левым баку майкі, а на правым — афіцыйны герб Беларусі. «Карыстаючыся сённяшняй сітуацыяй, мне хочацца, каб быў дыялог у грамадстве», — падсумаваў Давыдзька.**




**У Славеніі падчас фінальнага галасавання ў адборы на «Еўрабачанне» паказалі парадыйнае відэа пра прэзідэнта Расіі Уладзіміра Пуціна. Песню «Putin, Putout» і кліп стварыў комік Клемен Слаконья, які і быў вядучым канцэрта. Яна высмейвае імперскія амбіцыі расейскага лідара: «Ніхто не хоча Трэцяй сусветнай, Еўрасаюз і ЗША, не сварыцеся са мной». На відэа падобны да Пуціна акцёр выхваляецца арміяй, ядзернай зброяй і дэманструе голы торс верхам на кані.**



**Вясна ідзе. Фота першых падснежнікаў, якія распусціліся яшчэ ў лютым, даслаў нам чытач Андрэй Кавалевіч з Бярозы (Брэсцкая вобласць).**



### Анекдоты і жарты

* * *

На тэлеканале «Россія-1» выйшаў ідэалагічна няспелы рэпартаж: паказалі развaленую паліклініку ў Цвеpы, а ролю Абамы ў гэтым пытанні не раскрылі.

* * *

Работнікі лікёра-гарэлачнага камбіната даплачваюць за шкоднасць.

* * *

— Ты глядзіш навіны?

— Не. Я, здаецца, прапусціў першыя два сезоны і цяпер нічога не разумею.

* * *

Дапамагаючы вучыцца сваім дзецям, я атрымаў яшчэ адну вышэйшую, адну няпоўную вышэйшую і яшчэ тры сярэднія школьныя адукацыі.

* * *

— Ну што, давайце цяпер параваца, — сказаў мужык і сеў перад гарой памытых шкарпэтак...

* * *

Выпіваць штодня шклянку чырвонага віна лічыцца карыснай справай. Сёння я зрабіў сем карысных спраў!

* * *

Галоўны сакрэт здаровага харчавання — не чытаць на пакунку, з чаго зроблены прадукт.

## Шаноўныя чытачы! Наступны нумар «Нашай Нівы» выйдзе 16 сакавіка. З надыходам вясны!

### «НН» сто гадоў з вамі

**Рось Гродзенскай губ.** Тутэйшы мяснік купіў за 50 руб. хворага вала дый зарэзаў на мяса і яшчэ падухваліваўся, што людзі не пазнаюць. Але нехта сказаў аб гэтым урадніку, дык той прыказаў мяса закапаць у зямлю. Мяснік аж валасы на галаве рваў, але нічога не памагло, і 50 руб. прапалі! Няхай гэта будзе навукай і для другіх.

**Вайцяховіч**
**«НН» № 9—10, 1911**

**Гурт J_Morsнечакана пакінуў закулісcе перад уручэннем «Рок-кароны».** Як паведамілі музыкі назаўтра ў прэс-рэлізе, яны з’ехалі на знак пратэсту супраць палітызацыі мерапрыемства, якая выявілася ў прыходзе на канцэрт Мілінкевіча і «агітацыі са сцэны за аднаго з кандыдатаў».

**«НН» № 9, 2006.**

**Наша Ніва**
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914),
Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч,
У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

шэф-рэдактар Андрэй Дынько
сакратарка рэдакцыі Таццяна Кур'ян
намеснікі галоўнага рэдактара Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32,
8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


8 палос фармaтам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 6020. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 01.03.2016.
Замова №771.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 1819-1614
9 771819 161008 16009